# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

11 чэрвеня 2003 № 51 кошт 1 літ


***З канца мінулага году ва Ўкраіне адзначаюцца сумныя 70-ыя ўгодкі Галадамору 1932-33 гг. Сябры Таварыства ўкраінцаў Літвы "Гул" ласкава перадалі нам у рэдакцыю разнастайныя матар'ялы, якія непасрэдна датычаць гэтай чорнай даты ў гісторыі братняга ўкраінскага народу. Зь некаторымі зь іх (у скароце) мы й знаёмім нашых чытачоў.***

### 1. "Зварот да ўкраінскага народу ў зьвязку з Днём памяці ахяраў Галадамору й палітычных рэпрэсіяў"

...Мала знойдзецца ў няпростай гісторыі ня толькі Ўкраіны, але і ўсяго сьвету, такіх жахлівых трагедыяў, яг Галадамор 32-33-га гадоў... На сваім гістарычным шляху ўкраінскі народ зазнаў нямала трагічных выпрабаваньняў, аднак усё, што выпала на ягоную долю ў той нібыта мірны час, зацьміла сваёю жахлівасьцю нават ваеннае ліхалецьце. Сплянаваны й зрэалізаваны камуністычным рэжымам Галадамор... паставіў пад сумнеў самое йснаваньне нацыі. Гэта – не перабольшаньне. Галадамор стаўся нацыянальнаю катастрофаю. Толькі цягам 1932-33 гг. загінула пятая частка насельніцтва Ўкраіны. Людзі выміралі цэлымі сем'ямі. Дэмаграфічныя, сацыяльна-эканамічныя, гісторыка-культурныя наступствы тадышніх злачынстваў Украіна адчувай й дасюль. Нацыю забівалі павальна... Не расстрэламі й газавымі печамі, а павальным – і ад гэтага яшчэ больш жахлівым –згасаньнем ад голаду...

...ладнікі, ставілі заслоны на шляхох у гарады. З украінцаў вымалі хлебаробскую душу, ламалі хрыбет нацыі, сьвядома правакавалі канібалізм...

Ніхто, я думаю, ня здольны адчуць, што давялося перажыць усім тым людзям. Той тэрор голадам быў цынічнаю водпаведзьдзю бальшавіцкай улады на адпор украінскага сялянства суцэльнай калектывізацыі, палітыцы пераўтварэньня вольных земляробаў у бязмоўных рабоў...

Сёньня, калі ад пачатку Галадамору мінае 70 гадоў, мы павінныя дакладна зразумець – галоўную, бесьпярэчную, непераходную каштоўнасьцю для нас усіх зьяўляецца собская дзяржава. Бо толькі здабыцьцё Ўкраінаю незалежнасьці ды дэмакратычны шлях, які мы абралі, ёсьць надзейны гарант таго, што такое ніколі не паўторыцца...

І ў тыя гады мы мелі нямала шанцаў усьвядоміць: мы адзіная нацыя. У 32-33-ім украінцы з польскіх берагоў Збручу й Бугу – яны ведалі пра голад – пускалі платы з харчамі, і польскія памежнікі – яны таксама знаілі пра голад – глядзелі на гэта праз пальцы. Яны не стралялі. Стралялі савецкія памежнікі. Ва ўкраінцаў з супрацьлеглага берага, якія намагаліся падхапіць платы.

Кроў мільёнаў загінуўшых суайчыньнікаў стукае ў нашыя сэрцы. І мы абавязаныя зрабіць усё, каб памяць пра іх заўжды была жывою для цяперашніх і будучых пакаленьняў... Пераканаты, у Кіеве мае быць паўстаць велічны Мэмарыял ахвярам Галадамору. Памятнікі патрэбныя і ў іншых рэгіёнах дзяржавы...

Мой абавязак данесьці да міжнароднай грамадзкасьці праўду пра Галадамор, пра ягоныя прычыны й наступствы, дамагчыся ягонага вызначэньня міжнароднай супольнасьцю, як акту генацыду супраць украінскага народу...

Хай-жа памяць пра ўсіх нявінна забітых згуртуе нас, жывых, дадасьць нам сілаў ды волі, мудрасьці й бодрасьці для ўзмацненьня ўласнай дзяржавы на ўласнай зямлі, росквіту дэмакратыі, вольнага жыцьця кожнага чалавека.

Бог і час, калі жылі тыя людзі, не пакінуў ім выбару. Мы павінныя вызначыць – гэта быў генацыд. Мэтанакіраваны, дэталёва сплянаваны генацыд супраць украінскага народу...

Цяпер, пасьля таго, як прайшло ўжо шмат гадоў, мы можам адказаць на пытаньне: чаго хацелі дамагчыся арганізатары Галадамору? Каму было выгадна падсекчы нашую хлебаробскую нацыю пад корань? Каму было выгадна пасяліць амаль што роўны генетычнаму страх – перад сілаю, перад новым голадам, перад новымі рэпрэсіямі?

Камуністычны рэжым ня мог мірыцца зь існаваньнем вольных, незалежных ад яго людзей. Вольных людзей, аснову асабістай незалежнасьці каторых складала іхная ўласная праца на ўласнай зямлі, трэба было зьнішчыць! Нават закатаваць голадам – за цаною не сталі. Удары наносіліся мэтадычна й мэтанакіравана. Спачатку забіралі апошняе, потым выцягвалі схаванае, бралі ў зак...

*Прэзыдэнт Украіны*
**Леанід Кучма**



*Незнаёмка з Косава. З фатаархіву Алеся Зайкі.*

Дні беларускай і швэдзкай паэзіі праходзілі 29-31 траўня на Палесьсі (Пінск, Лунінец, Мікашэвічы). Ініцыятарамі сьвята былі Швэдзкі інстытут (Стакгольм), Грамадзкая арганізацыя "Калегіюм" (Пінск), літаб'яднаньне "Лунінецкая муза" (Лунінец). З швэдзкага боку ў Днях паэзіі ўдзельнічала вядомая швэдзкая й расейская паэтка Інга Ліна Лундквіст, дарэчы, нашая зямлячка: нарадзілася й вырасла Інга ў Барысаве. Падчас гэтае паэтычнае імпрэзы ў Пінску быў праведзены "Кубак маладзёвай паэзіі", на якім бралі ўдзел ажно 40 навучэнцаў школаў гораду. Мне асабіста найбольш цікавым і сваім зьместам, і формаю, і тонкасьцю пісьма здаўся верш вучаніцы 10 "В" клясы Пінскай гімназіі № 3 Юліі Севасьцьянчук (заняла 2-ое мейсца), зь якім мы й знаёмім нашага чытача.

**А. М.**

## Юлія Севасьцьянчук

* * *

*Пад будзільніка кляты харал,*
*Ледзь расплюшчыўшы сонныя вочы,*
*Я з уладай змагаюся ночы,*
*Свой выконваючы рытуал.*
*Я чароўную каву гатую:*
*Водар кавы вяртае прытомнасьць.*
*Я гляджу на жыцьця мнагатомнасьць*
*Скрозь сваю філіжанку шкляную.*
*Для мяне сьвет ня страціць прывабнасьць,*
*Набываючы кававы прысмак.*
*Мая кава працуе як прызма,*
*Праламляючы думак нязграбнасьць.*
*А дапіўшы апошні глыток,*
*Дзьверы я адчыню ў рэчаіснасьць.*
*Адчуваючы рэчаў дваістасьць,*
*Я іду ў чалавечы паток.*
*Там мяне сустракаюць*
*Людзі бяз твараў:*
*Хваля постацяў шэрых*
*У абгортках яскравых,*
*У масках трывалых,*
*Зь іскрынкамі мараў.*
*Локцямі штурхаюць.*
*Іх вочы — як хмары.*
*Іх думкі — хімеры.*
*Іх сэрцы — каменьні*
*З каваткамі веры.*
*Іх душы — ахвяры —*
*Ў натоўпе зьнікаюць.*
*Я ў вэрхале гэтым*
*Таксама бяз твару,*
*Таксама часьцінка жывога тавару.*
*Сам-насам са сьветам*
*Мяне пакідаюць...*
*Я зноў хачу кавы!*
*Ці... Мэры Крывавай?*

# ГАЛАДАМОР

### 2. Галадамор ва Ўкраіне 1932-33 гг.

...Голад 1932-33 гг. ахапіў тыя самыя рэгіёны Ўкраіны, што і ў 1921-22 гг., але гэтым разам да яго спрычыніліся, насамперш, палітычныя чыньнікі. Трэба было зьнішчыць шматлікую праслойку заможных і незалежных ад дзяржавы сялянаў-прадпрыймальнікаў. Масавае фізычнае вынішчэньне ўкраінскіх хлебаробаў штучным голадам было сьвядомым тэрарыстычным актам палітычнай сыстэмы супраць мірных людзей, у выніку чаго зьнікалі цэлыя пакаленьні земляробаў-унівэрсалаў, былі зруйнаваныя сацыяльныя асновы нацыі, ейнай традыцыі, духовай культуры ды самабытнасьці... Галадамор 1932-33 гг. – гэта сьвядома зьдзейсьненая акцыя. Як сьведчаць дакумантальныя крыніцы, хлеб ва Ўкраіне быў, але хлеб з Украіны забралі. Пасьля прыезду Молатава ва Ўкраіну восеньню 1932 г., калі, здавалася-б, з нашае дзяржавы вывезьлі ўжо ўсё, што толькі можна, Сталін прыслаў Кагановіча, з удзелам якога 29 сьнежня таго самага году адбываецца паседжаньне Палітбюро ЦК КПБ(У), на якім ухвальваецца пастанова забраць з Украіны ўсё, у тым ліку й пасяўны матар'ял для калгасаў.

У дакумантах Палітбюро ЦК КПУ зьберагося сьведчаньне пра тое, што восеньню 1932 г. арганізоўваліся гэтак званыя "зялёныя эшалёны" для забясьпечаньня прамысловых цэнтраў Расеі прадуктамі харчаваньня да кастрычніцкіх сьвятаў. З украіны вывозілі нават квашаныя агуркі, капусту да памідоры. Такім чынам, тыя людзі, што вырошчвалі гэтую прадукцыю, засталіся асуджанымі на галодную сьмерць.

У адпаведнасьці з распараджэньнямі ўраду забараняўся колечы-які гандаль у сельскай мясцовасьці, прыпынялася харчовае забясьпечаньне сілаў, пераследавалася ды каралася на 10 гадоў зьняволеньня й расстрэл за будзь-якое выкарыстаньне хлеба на трудадні ў калгасах ды раёнах, якія ня выканалі хлебанарыхтоўчых плянаў, уводзілася сыстэма масавага адлучэньня насельнеывых фондаў ды "незаконна" раздадзенага хлеба калгаснікам, натуральных штрафаў, таварных рэпрэсіяў. Удзельная вага ўкраінскага збожжа ў агульнасаюзным маштабе дасягала больш трацiны й перавышала плянавыя заданьні для Паўночнага Каўказу, Цэнтральна-чарназёмнага рэгіёну Расеі й Казахстану разам узятых...

Гісторыкі й дэмографы... агалошваюць розныя дадзеныя стратаў, ад 3 да 10 млн. Найверагодней, калі браць пад увагу матар'ялы перапісу насельніцтва 1937 г., страта насельніцтва ў выніку поўнага фізычнага зьнясіленьня, тыфусу, кішэчна-страўнікавых атручваньняў, канібалізму, рэпрэсіяў, самагубстваў... складае блізка 7 млн. чалавек на тэрыторыі Ўкраіны....

*Працяг на старонцы 4*

## Канцэрт для гараджанаў

прысьвечаны рэфэрэндуму аб уступленьні Літвы ў Эўрапэйскі Саюз, праходзіў 8 траўня на Катэдральным пляцы ў Вільні. Арганізатары мерапрыемства раздавалі тым, хто прыйшоў на канцэрт, сьцяжкі Літвы й Эўрасаюзу, паветраныя балёнчыкі. Самым першым галасавацьм за ЭС заклікаў арцыбіскуп Андрус Бачкіс, абяцаючы новае, лепшае, заможнейшае будучае. Прысутныя на канцэрце воклічамі падтрымлівалі арцыбіскупа ды іншых выступоўцаў, што прамаўлялі зь імпрэзаванай сцэны. Тымчасам распачаўся канцэрт, самыя розныя гурты сьпявалі й скакалі ў гонар маючага адбыцца рэфэрэндуму. На пляцы сабралася пераважна моладзь, былі там і старэйшыя векам, і ўжо старыя, якія хуценька зьбіралі шматлікія парожнія пляшкі з-пад піва на лаўках ды палянах парку ля падножжа Замкавай гары. Зборшчыкі посуду ведаюць, што ў Эўразьвязе яны не патрэбныя, а сабраныя бутэлькі ўжо сёньня дадуць ім вячэру... Да позьняй ночы весялілася й "адцягвалася" моладзь, якую ахоўвала машынная й конная паліцыя.

## 9 Мая

ў Вільні, на Антакальскіх могілках і на праваслаўных могілках на Ліпоўцы, адбыліся мітынгі, прысьвечаныя Дню Перамогі. Дзясяткі тысячаў воінаў 2-ой Сусьветнай вайны знайшлі свой апошні спачын на літоўскай зямлі.



*Ярэк Саўчанка на сьвяткаваньні Дня Перамогі на Антакальскіх могілках*

На мітынгах прысутнічалі вэтэраны вайны, школьнікі, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, чальцы Сойму. Аднак у асноўным гэта былі "рускамоўныя" жыхары Літвы, бо пераважная большасьць літоўцаў Дзень Перамогі за сьвята не ўважаюць. Нешматлікія ўжо вэтэраны ўспаміналі загінуўшых сяброў ды тыя ахвяры, якія панесьлі многія краіны за сёньняшні мірны дзень, зварочвалі ўвагу ўладаў на сваё незайздроснае сёньняшняе жыцьцё. Сярод выступоўцаў на мітынгу былі супрацоўнікі расейскай, беларускай, украінскай і казахскай амбасадаў. Да "вечнага агню", які цяпер запальваецца толькі на 9 Мая, ускладаліся кветкі, гучэла музыка... Кожная вайна забірае незлічоную колькасьць ахвяраў і сярод пераможаных, і сярод пераможцаў. У гэты дзень кветкі ўскладаліся на могілкі і тых, і другіх.

## Падведзеныя вынікі рэфэрэндуму

наконт уступленьня Літвы ў ЭС, які адбываўся 10 і 11 траўня. "За!" прагаласавала 1.497.602 грамадзянаў (дастаткова было 900.000), "Не!" сказала 147.429 прагаласаваўшых (8,96%). Да скрынак прыйшло 63,3% грамадзянаў (дастаткова было 50% плюс адзін голас). Усё нібыта склалася выдатна для прыхільнікаў Эўразьвязу, аднак у першы дзень галасаваньня выбарчыя ўчасткі наведала толькі каля 20% (!) грамадзянаў, што вельмі напалохала ўладныя структуры. Пачалася адкрытыя агітацыя людзей, іх угаворвалі, палохалі, а пасьля паабяцалі ўсім , хто прагаласуе, купон "Aš balsavau!" ("Я галасаваў!"), на які ў супэрмаркеце "VP Market" усяго за 1 літоўскі цэнт можна будзе атрымаць навыбор: пляшку літоўскага піва, бутэльку ліманаду або пачак пральнага парашку. VP Market-у гэтая акцыя абыйшлася ў 1 млн. літаў, а журналісты падлічылі, што дзеля гэткай "халявы" на выбарчыя ўчасткі прыйшло 481 928 грамадзянаў і толькі такім чынам быў пяройдзены 50-адсоткавы бар'ер. Улады з палёгкаю ўздыхнулі – Літва, лічы, ужо ў ЭС! Штопраўды, чальцы Сойму Пушкявічус, Шарканас, Гражуліс, Весялка ды некаторыя іншыя зьвярнуліся са скаргай у Галоўную выбарчую камісію, уважаючы, што 1-цэнтовая падачка ёсьць абраза літоўскай дзяржавы. Але, як кажуць, "цягнік ужо пайшоў".

*Падрыхтаваў* **Павал Саўчанка**

## Кінафорум

"Мантаж палоў: парадыгмы постсавецкай прасторы" праходзіў у віленскім кінатэатры "Skalvija". Прайшлі ўжо праграмы, прысьвечаныя Манголіі, Узьбекістану, Таджыкістану, Кіргізіі, краінам Каўказу. Мне 17 траўня давялося пабываць на вечары грузінскага кіно. Рэжысэрка Ліяна Джакелі прапанавала гледачам стужкі "Невідочныя" й "Жыцьцё адно й імя адно". Назва апошняй стужкі гэта фраза, сказаная адной з гераіняў фільма: "Я яго не кахала, але ён мяне ўзяў, і я павінная застацца зь ім. Бо імя адно. Ці ня так? І жыцьцё адно". Фільм паказвае сутнасьць замкнёнай у сябе самой грузінскай сям'і, імідж якой неверагодна вышэйшы за асобу жанчыны й ейных чалавечых правоў. "Невідочныя" – гэта фільм пра жанчынаў і дзяўчынак замкнёнага азэрбайджанскага асяродку ў Грузіі (усяго ў 50 км. ад Тбілісі). Калі дзяўчынкам спаўняецца 13-15 гадоў яны перастаюць хадзіць у школу, іх сватаюць і выдаюць замуж. Неадукаванасьць, забітасьць, цяжкая фізычная праца, пазбаўленьне ўсялякіх правоў, рабства ў сваіх сем'ях. У азэрбайджанскай суполцы пануе патрыярхат. Тут свае законы, парадкі. Жонка нарадзіла мужу двух дачок, але гэта азначае, што ў мужчыны няма дзяцей, бо няма сыноў. Ён прыводзіць у дом другую жонку, якая нарадзіла яму яшчэ двух дачок і двух сыноў, – цяпер ён мае двух дзяцей... Фільмы кінафоруму здымаліся зь цяжкасьцямі, без дзяржаўнай падтрымкі. І паказаць іх на радзіме амаль немагчыма. А іхныя гераіні ніколі іх ня ўбачаць, бо ў іхных дамох няма тэлевізараў, адсутнічае электрычнасьць плюс няведаньне дзяржаўнай мовы, традыцыі нацыянальнай абшчыны: забараняецца пакідаць сяло, забараняецца быць далей свайго двара й поля. Усё гэтае сёньня здаецца неверагодным. Але гэта так. І грузінская дзяржава палепшыць становішча жанчынаў у сваіх нацыянальных суполках (іх налічваецца 80 у краіне) ня ў стане праз беднасьць дый, напэўна, абыякавасьць да гэтай праблемы. Дый самыя кінастужкі зьявіліся дзякуючы матар'яльнай падтрымцы Інстытуту сецевай праграмы жаночага адкрытага грамадзтва (Нью Ёрк) ды Фонду роўных магчымасьцяў (Вільня).





*На ганку музэю (зьлева направа): пісьменьнік А. Анішчык, дырэктарка музэю А. Гайко, П. Саўчанка.*

## Навучальны год

у сярэдніх школах Літвы заканчваецца. Гучаць апошнія званкі. Дзяржаўныя экзамены будуць трымаць каля 45 тыс. маладых людзей. Усім ім абавязкова трэба здаць іспыты зь літоўскай (дзяржаўнай) мовы й яшчэ з трох прадметаў (паводле выбару). Літоўскую грамадзкасьць непакоіць тое, што ня ўсе вучні, каторыя прыйшлі ў першую клясу, заканчваюць асноўную (10 кл.) і сярэднюю (12 кл.) школу. Сёлета ў школы, паводле афіцыйных дадзеных, не прыйшло 20 тыс. дзяцей, аднак такіх, праўдападобна, у два разы болей. Палохае й статыстыка: з афіцыйна зарэгістраваных 4.705 наркаманаў больш 11% школьнікі й моладзь ад 15 да 19 гадоў.

*Падрыхтавала* **Валяньціна Грыневіч**

## Музэй М. Багдановіча ў Горадні

наведалі напрыканцы траўня госьці зь Вільні. Музэй быў адкрыты ў 1982 г. у доме, дзе са жніўня 1892 г. стала пражывала сям'я Багдановічаў. У гэтым доме прайшлі раньнія дзіцячыя гада слыннага паэта. Безумоўна, старажытная архітэктура Горадні, маляўнічая навакольная прырода, хуткаплынны Нёман аказалі ўплыў на Максіма. У пакоях музэю разьмешчаныя рэчы сям'і Багдановічаў, фатаздымкі родных і блізкіх паэта, яго самога. Захавалася некалькі прадметаў быту, якімі карыстаўся сам Максім, а інтэр'еры абстаўленыя тагачаснаю мэбляю й начыньнем. Пры музэі маецца даволі разнастайная і каштоўная бібліятэка. Да нядаўняга часу музэем кіравала вядомая паэтка Данута Бічэль-Загнетава, цяпер на дырэктарскай пасадзе спн. Алена Гайко, каторая ня толькі знаёміць наведнікаў з жыцьцём і творчасьцю М. Багдановіча, але й зь іншымі беларускімі пісьменьнікамі, асабліва, ураджэнцамі Гарадзеншчыны. Добра ведаецца ў музэі й імя земляка, пісьменьніка зь Вільні Аляксея Анішчыка (псэўд. – Андрэй Чэмер).

**Павал Саўчанка**

## Апошні школьны званок

у чарговы раз прагучэў для выпускнікоў 12-ай клясы Віленскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны. 23 юнакі й дзяўчаты выстраіліся на ўрачыстую лінейку ў іхны гонар. Для іх гучалі віншаваньні, цёплыя словы настаўнікаў, бацькоў, гасьцей і малодшых аднашкольнікаў. Ім былі адрасаваныя песьні, танцы, жарты... Ужо 9 выпускаў нарадзіла нашая школа, і, безумоўна, мае чым пахваліцца. Ейныя выпускнікі штогод паступаюць у ВУЗы Беларусі, някепска здаюць экзамены ў Літве, а некаторыя зь іх ужо самі настаўнічаюць у роднай школе. "Людзі да свайго мейсца вялікую ласку маюць..." Мы ганарымся сваёй школай і зычым выпускнікам пасьпяховай здачы экзаменаў, бадзёрасьці, надзейных сяброў, шырокіх жыцьцёвых шляхоў!

*Настаўніца роднай мовы* **Алена Базюк**

## Сумеснае паседжаньне

прысьвечанае сусьветна вядомаму акадэміку Барысу Кіту правялі 30 траўня ў Горадні "Сябрына Барыса Кіта" Інстытуту гуманітарных і экалагічных тэхналегіяў (Менск) і Рада Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Праходзіла паседжаньне ў Каралеўскай залі Новага замку. На паседжаньні адбылося, ужо традыцыйнае, узнагароджаньне лаўрэятаў Прэміяй Барыса Кіта за 2003 г. Першую прэмію атрымала пісьменьніца й літаратуразнаўца Лідзія Савік, аўтарка шырака вядомай кнігі пра жыцьцё, навуковую творчасьць і грамадзкую дзейнасьць Б. Кіта "Космас Беларуса". Летась прэміяй былі ўзнагароджаны віленскі пісьменьнік Алег Мінкін і журналіст зь Менску Валеры Каліноўскі. Сёлета мы пабачылі сярод лаўрэятаў пісьменьніцу Вольгу Іпатаву й гарадзенскага вучонага і беларусазнаўцы Андрэя Майсяёнка. "Барыс Кіт – гэта невычэрпная крыніца гуманізму, інтэлекту, чалавечай дабрыні", – сказаў сп. А. Майсяёнак. "Барыс Кіт пасябраваў усіх нас, мы зрабіліся роднымі адно аднаму. Гэты вялікі чалавек зараджае нас сваёю энэргіяй і ініцыятывай, якія няспынна струменяцца ў ім. Барыс Кіт – узор вольнага, незалежнага чалавека, нам усім трэба вучыцца жыць і працаваць у ім!" – сказала спн. В. Іпатава.

**Павал Саўчанка**

# Барацьба за ўшанаваньне памяці Багушэвіча працягваецца

Амаль цераз 100 гадоў пасьля сьмерці Ф. Багушэвіча на Віленшчыне пачалася практычная работа ў справе ўшанаваньня памяці „бацькі беларускай паэзіі". Як мы ўжо неаднаразова паведамлялі, за гэтую справу ўзялося ТБМ Віленскага краю. Насамперш імя паэта было ўвекавечанае адпаведнай назваю вуліцы ў в. Савічуны, што месьцяцца ў непасрэднай блізкасьці ад Сьвіранаў. Адразу заўважу, што бальшыня прадстаўнікоў мяйсцовай улады Віленскага раёну (стаўленьнікі Акцыі выборчай палякаў Літвы — AWPL) ніколі не была зацікаўленая, каб на Віленшчыне адраджалася й захоўвалася беларушчына. Гэта цалкам пярэчыць мяйсцовым польскім „культуртрэгерам", якія ў сваіх буклетах і даведніках пра Віленскі край нават ня ўзгадваюць імёны славутых беларускіх дзеячоў ды літаратараў, у тым ліку й Багушэвіча, які нарадзіўся ў Сьвіранах, а хрост прыйняў у недалёкім Рукайняйскім касьцёле. Што да тамтэйшых жыхароў, дык яны дагэтуль захоўваюць памяць пра Багушэвіча, ведаюць, размаўляюць і не цураюцца сваёй „простай" (беларускай) мовы. Многія й цяпер яшчэ цытуюць напамяць вершы з Багушэвічавай „Дудкі беларускай".

Ва ўмовах нядаўняй саветызацыі й цяперашняй паланізацыі з памяці жыхароў Віленшчыны паступова сьціраецца ўсё беларускае, асабліва гэта тычыцца маладога пакаленьня. У свойчас мне, як актывісту ТБМ, прапанавалі балатавацца ад AWPL у самакіраваньне Віленскага раёну. І я даў згоду, маючы нешта канкрэтнае зрабіць у справе беларускага адраджэньня на Віленшчыне. Пачаў з назваў вуліцаў у мястэчках і вёсках раёну. У хуткім часе зьявілася вуліца Браніслава Тарашкевіча ў Лаворышках, Кастуся Каліноўскага ў Медніках, Уладыслава Сыракомлі й Францішка Багушэвіча ў Савічунах. Гэта быў першы посьпех, але адразу пасыпаліся й няўдачы. Напрыклад, дырэкцыі Лаворышскай і Рукайняйскай школаў адмовілі ў наданьні сваім школам адпаведна імя Тарашкевіча й Багушэвіча. Дырэктар Рукайняйскай СШ пісьмова адказаў, што Ф. Багушэвіч да іхнай школы ня мае ніякага дачыненьня, а ў Лаворышскай СШ і дагэтуль сцьвярджаюць, што „Б. Тарашкевіч лічыў Вільню сталіцай Заходняй Беларусі" й што яго „падтрымлівала КПЗБ", і на гэтай падставе адмаўляюць надаць школе ягонае імя... Усё гэта, у сапраўднасьці, ёсьць палітыка. Усё робіцца для таго, каб ня даць паказаць беларускую прысутнасьць на Віленшчыне. Польскія шавіністыя чакаюць таго моманту, калі можна будзе надаць спамянёным школам імёны польскіх дзеячоў. Час пакажа, ці ўдасца ім гэтае зрабіць.

Наступным крокам у нашай дзейнасьці было адкрыцьцё мэмарыяльнай табліцы Багушэвіча ў Савічунах (на муры тамтэйшай бібліятэкі). І гэтым разам нямала мы спаткалі перашкодаў з боку кіраўнікоў Віленскага раёну. Справа дайшла нават да таго, што раённыя ўлады, каб дагадзіць сваім добрым прыяцелем у справе зьнішчэньня беларушчыны ў самай Беларусі — менскім уладам — у апошні момант адхілілі ТБМ ад удзелу ў адкрыцьці таблі цы ды запрасілі зусім іншых людзей, ня маючых аніякіх адносінаў да імпрэзы. Я маю на ўвазе сп. Мурашку, прэзыдэнта Згуртаваньня белалускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы. А калі і ў Савічунах на сьцяне прыватнага дому (каб не ўзгадняць справу з раённымі ўладамі) мы таксама адкрылі мэмарыяльную таблі цу ў гонар Багушэвіча, дык дайшло да анэкдоту. Раённыя ўлады нацкавалі працаўнікоў Рукайняйскага староства (сянюніі) правесьці „акцыю" зьнішчэньня гэтай таблі цы. Паводле вуснага распараджэньня мэра раёну Л. Янушаўскене (яна-ж і намесьніца AWPL) віцэ-мэр раёну Т. Парамонава й сянюнас Л. Санкевіч, напужаўшы вывазкай у Сыбір (!) гаспадыню хаты за тое, што тая дазволіла ўсталяваць на ўласным доме беларускі мэмарыяльны знак, — прымусілі яе зьняць і схаваць таблі цу. Толькі з дапамогай паліцыі ўдалося адшукаць яе ды зноў устанавіць, але гэтым разам на доме насупраць, гаспадыня якога Станіслава Ярмалковіч пайшла нам насустрач, не паслухаўшыся раённага начальства й нават рукойнскага ксяндза Яна Мацкевіча.


І адзін у полі воін... Старшыня ТБМ Віленскага краю перад крыжам, устаноўленым ім у памяць Ф. Багушэвіча й паўстанцаў 1863 г. на радзіме паэта ў Сьвіранах. Красавік 2003 г.

Сёлета ў Сьвіранах сіламі ТБМ устаноўлены памятны крыж у памяць Ф. Багушэвіча і ўдзельнікаў паўстаньня 1863 г., да якіх належыў паэт. Робяцца захады адкрыць у Савічунскай бібліятэцы літаратурны куток Францішка Багушэвіча. Адпаведныя дакументы ўжо даўно здадзеныя мэру Віленскага раёну. Але пытаньне не вырашаецца, дакументы як ляжалі, так і ляжаць „пад сукном". Шавіністычна настроеныя палякі зь Віленскага самакіраваньня бачаць з боку беларусаў пагрозу іхнай „пальшчызьне", усе нашыя ініцыятывы імі блякуюцца, а зробленае намі яны стараюцца зьнішчыць ці пакінуць недаробленым. Адно цешыць, што нягледзячы на сваю арыфмэтычную бальшасьць, пасьля апошніх мяйсцовых выбараў яны былі змушаныя добра „пацясьніцца" — 11 мейсцаў з 27 у раённай уладзе займаюць сёньня прадстаўнікі іншых палітычных партыяў, якія добразычліва ставяцца да беларусаў, і на якіх разьлічваюць у сваёй культурна-асьветніцкай рабоце на Віленшчыне.

**Юры Гіль**


"Культурная спадчына Бізантыі"– сэмінар на такую тэму быў праведзены 29 траўня ў Доме нацыянальных абшчынаў сіламі сяброў Грэцкага таварыства ў Літве "Понтас". На сэмінары прысутнічалі высокія госьці з Сойму, даклады чыталі прафэсыйныя гісторыкі й аматары, прадстаўнікі шмат якіх нацыянальнасьцяў Літвы. Зь беларускага боку выступіў сакратар газэты Павал Саўчанка (на здымку – першы справа). Ён распавёў пра беларуска-бізантыйскія дачыненьні X – XII ст. ст. і, у прыватнасьці, пра жыцьцё й дзейнасьць Сьв. Еўфрасініі Полацкай, якая неаднойчы была ў Бізантыі.

**Валянціна Грыневіч**

## Па дарогах Літвы, Польшчы, Чэхіі

так называлася вандроўка , якую ў траўні заарганізавала віленская турыстычная фірма "Экспрэс тур". У вандроўцы бралі ўдзел і прадстаўнікі беларускай нацыянальнасьці. Маршрут быў такі: Вільня – Коўна – Беласток – Варшава – Вроцлаў – Градзец – Бероўн – Прага – Вільня. Мне падабалася Чэхія, прыгожая ўсходнеэўрапэйская дзяржава. Вандроўнікі пабывалі ў знакамітым мястэчку Карлавы Вары. Прага ляжыць на скрыжаваньні гістарычных шляхоў і лёсаў многіх народаў Эўропы. Прага – старажытны горад, непадобны да іншых. У Празе жыў і сьпяваў знакаміты беларускі сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі. З ушанаваньнямі ён быў пахаваны на Ольшанскіх могілках.

**Ігар Ахрамовіч**

## Роздумы пасьля "адсідкі"

16 красавіка я быў вызвалены ад арышту, закончыліся мае 15 суткаў адміністрацыйнага арышту, прызначаныя мне за мітынг, несанкцыянаваны ўладамі. Пакуль я сядзеў – абрынуўся рэжым Хусэйна, гэта мяне радуе, спадзяюся, што ў часе наступнай адсідкі зьляціць яшчэ які-небудзь рэжым (можа й беларускі), дзеля гэтага згодны пасядзець.

Ужо вечарам таго самага дня слухаў, як БТ трансьлявала пасланьне Лукашэнкі да Парляманту й народу. Чарговы шоўспэктакль аднаго актора яшчэ раз падцьвердзіў, што парлямант Беларусі яшчэ ня вырас зь дзіцячых штонікаў, і ўся ягоная "бурная законатворчая дзейнасьць" нагадвае гульні дзяцей дашкольнага ўзросту ў пясочніцы. Нешта там "будуюць", "пляную́ць", "прымаюць", пра нешта гавораць, адным словам імітуюць законатворчую дзейнасьць. Але вось зайшоў у пясочніцу гаспадар, і абрынуліся ўсе так старанна збудаваныя "пясочныя замкі дэмакратыі", падзелу уладаў і незалежнасьці заканадаўчай галіны ўлады.

Пра сапраўднае месца ў Беларусі сёньняшняга парляманту яскрава гаворыць характар задаваных Аляксандру Рыгоравічу пытаньняў. Адзін дэпутат прасіў прэзыдэнта пабудаваць дарогу ў ягонай выбарчай акрузе, другі – завяршыць будаўніцтва царквы, трэці – дапамагчы пісьменьнікам... Адным словам, не дэпутаты, а "папрашайкі"... Пасьля пэўнага "наезду" на апазыцыйных дэпутатаў, якія на думку А. Р. здрадзілі ЯМУ й Беларусі, некаторыя зь іх "у штаны наклалі" й пытаньняў ужо не задавалі. Ёсьць чаго баяцца – згодна словаў А. Р., на наступны тэрмін выберуць толькі тых, каго ён будзе падтрымліваць. Аказваецца тыя, хто не падтрымлівае ягоны "адзіна правільны" курс, гэта здраднікі... Пры гэтым, заўважце, для яго Беларусь і ЁН – гэта адно тое самае. Увесь гэты "цырк" вельмі нагадваў нядаўнюю "ўсенародную падтрымку" Садама Хусэйна іракскім народам, ягоны "адзінадушны" парлямант, ягоны "ўсенародны" рэфэрэндум, на якім палітыку Садама адобрыў 101% грамадзянаў.

Як паведаміў дыктар БТ, было зададзена каля 40 пытаньняў, але асабіста я не пачуў ніводнага пытаньня па-сутнасьці. А ўсё-ж некаторыя пытаньні хацелася было пачуць, напрыклад: 1) Дзеля чаго наогул сабраліся Парлямант і Прэзыдэнт? Няўжо толькі дзеля таго, каб яшчэ раз паслухаць маналёг А. Р. пра тое, які ён "клапатлівы й патрабавальны"? 2) Калі А. Р. сканцэнтраваў у сваіх руках усю ўладу, дык, уласна, хто павінен несьці адказнасьць за стан справаў у краіне? 3) Калі А. Р. лічыць сябе гэткім незаменным, дык якімі сваімі "дасягненьнямі" ён можа пахваліцца за дзевяць гадоў свайго праўленьня? Няўжо за гэты час мы сапраўды сталі жыць лепш? 4) Калі тыя, хто, на ягоную думку, "нападзе" на Беларусь, "вар'яты", дык як ён тады сам ацэньвае сваё псыхічнае здароўе? Як можна было "ўмудрыцца", зьяўляючыся галавою еўрапэйскай краіны, перасварыцца практычна з усімі суседзямі?

**Валеры Леванеўскі**
*("Предприниматель", № 152)*

 



# ГАЛАДАМОР

Працяг са старонкі 1

Паводле сваёй антыўкраінскай скіраванасьці ды маштабнасьці прымяненьня голад 33-га году зьявіўся найжахлівейшаю зброяю масавага зьнішчэньня ды паняволеньня сялянства, якую скарыстаў таталітарны рэжым ва Ўкраіне...

Геаграфія сьмяротнасьці ад голаду ва Ўкраіне стракатая. Менш пацярпелі паўночныя раёны першай паловы 32-га, і суцэльны мор ва ўсіх абласьцёх цягам другой паловы 32-га ды першай паловы 33-га гадоў...

Архіўныя дакументы зьберагліі інфармацыю пра агульную колькасьць насельніцтва, якая нясьцерпна галадала. Так, вясною 33-га ў 66-ці раёнах Кіеўскай вобл. было зафіксавана паўмільёна галадуючых сялянаў, а на Днепрапятроўшчыне голад ахапіў 70 адсоткаў насельніцтва. У сакрэтных лістах кіраўнікоў дзяржавы, кіраўнікоў абласнога ўзроўню да ЦК КПУ за травень 33-га году паведамлялася пра сьмяротнасьць у асобных сёлах, якая сягала ад 450 да 600 чалавек...

Самая дасканалая статыстыка ня здольная перадаць глыбіні ды маштабнасьці сацыяльна-эканамічных, палітычных ды маральна-псыхалягічных вынікаў галадамору, жахлівага свавольля ўладных структураў і масавых выпадкаў ганебнай для чалавека зьявы – канібалізму. Галодныя ліхалецьці, якія ахапілі адміністрацыйныя раёны з насельніцтвам па-над 40 млн. чалавек, і трывалі амаль што два гады – зьява не стыхійная, а цалкам рукатворная...

Пастановы Вярхоўнай Рады Ўкраіны, рашэньні Прэзыдэнта Ўкраіны ды Кабінэту Міністраў Украіны ў адносінах падрыхтоўкі й правядзеньня захадаў у зьвязку зь сямідзясятымі ўгодкамі галадамору ва Ўкраіне, па-сутнасьці, упершыню за 15 гадоў афіцыйна вызначылі факт голаду дзяржаўнымі ворганамі Ўкраіны. Яны заклалі юрыдычную базу для шырокамаштабных дасьледаваньняў, прававога тлумачэньня й палітычнай ацэнкі злачынстваў супраць чалавецтва.

Вызначэньне голаду актам генацыду мае прынцыповае значэньне для стабілізацыі грамадзка-палітычных адносінаў ва Ўкраіне й ёсьць фактар аднаўленьня гістарычнай справядлівасьці, маральнага аздараўленьня некалькіх пакаленьняў ад страшнага шоку, створанага масавымі рэпрэсіямі ды галадаморам...

**Міністэрства Замежных Справаў Украіны**

## 3. Вынятка з сьценаграмы выступленьня на "Слуханьнях наконт ушанаваньня памяці ахвяраў галадамору 1932-33 гадоў" у Вярхоўнай Радзе Ўкраіны

...гэтая тэма, без перабольшаньня, невычарпальная, з архіўных глыбіняў працягваюць зьяўляцца ўсё новыя дакументы, ад якіх здрыгаюцца нашыя душы й нашыя сэрцы. Я трымаю ў руках арыгінал дзёньніка Аляксандры Радчанкі, жыхаркі местэчка Гарадок Камянец Падольскай, цяпер Хмяльніцкай, вобласьці. На 60-ці старонках, якія зьберагаюцца ў Службе бясьпекі Ўкраіны, зафіксаванае тое, што гэты чалавек чуў, знаў і перажываў у 1932-33 гг. Тут ёсьць запісы, ад якіх, і гэта ня проста выраз, стыгне ў жылах кроў... Я дазволю зачытаць адзін толькі запіс з гэтага дзёньніка, які датаваны 9 студзенем 1933 г.:

"У Харкаве творыцца жах голаду, крадуць дзяцей і прадаюць кілбасы з чалавечага мяса. Крадуць і бяруць выкуп. Пісалі факты ў газэтах, што прымаюць меры, але дзеці ўсё гінуць. Факты потым запішу, стамілася..."

**В. М. Літвін**

17

ВИПАДКИ ЛЮДОЇДСТВА

ПО РАЙОНАХ К И Ї В С Ь К О Ї ОБЛАСТИ.-

(1)

1. ВОЛОДАРСЬКИЙ РАЙОН /Б.Ц./

с.Петрашівка I випадок - колгоспниця труп свого померлого чоловіка.

с.Руда- 9 літн. хлопець з'їв свою се 4-х років.

2. ТЕТІЄВСЬКИЙ РАЙОН

с.Черепін- одноосібниця Березнюк Х. зала свою дочку 10-ти років і з'їла.

с.Скибенці - троє дітей сім'ї колгосп ка, найстаршому 15 років, забили і з' чужого хлопчика. Вони ж повирізали м' частини тіла померлої своєї матері і

с.Мала Вільшанка- II/II виявлено факт їдства одноосібником-біднюком Бондар /що не мав власного посіву/ своєї ме дитини. Він же крім того, забив свого племянника.

с.Озірна- одноосібником Клецківським то хлопчика Юрківського 13 років та з'їдено.

IОП

с.Маслівка- громадянка /прізвище та стану не вказано/ повісила 3-х дітей сама повісилась.-

с.Маслівка- твердоздатчиця /прізвище вказано/ зарізала і з'їла свою 8 річ дочку./заарештована/

С П Р А В К А

учета продзатруднений и выявленных случаев трупоедства и людоедства в районах Харьковской области.

По состоянию на 10/VI-1933г.

Всего поражено продзатруднениями - 61 район области с общим количеством населенных пунктов - 607.

Выявлено за период с 1-го по 10-е июня случаев трупоедства и людоедства - 38 по 21-му району области.

Всего зарегистрировано по области случаев трупоедства и людоедства, включая и последнюю десятидневку - 245 по 61-му району.

НАЧАЛЬНИК СЕКРЕТНО-ПОЛИТИЧЕСКОГО ОТДЕЛА /ОСИНИН/

## 4. Выпадкі людаедзтва па раёнах Кіеўскай вобласьці

(Са спэцархіву КДБ)

**Валадарскі р-н**

Сяло Петрашыўка – калгасьніца зьела труп свайго памерлага мужа.

Сяло Руда – 9-гадовы хлопец зьеў сваю сястру 4-х гадоў.

**Ціціеўскі р-н**

Сяло Чарэпін – аднаасобніца Беразьнюк Х. зарэзала сваю дачку 10-ці гадоў і зьела.

Сяло Скабянцы – трое дзяцей сям'і калгасьніка, старэйшаму 15 гадоў, забілі й зьелі чужога хлопчыка. Яны-ж павырэзвалі мясныя часьціны цела сваёй памерлай маці й зьелі.

**Белацаркоўскі р-н**

Сяло Малая Вільшанка – 11/II выяўлены факт людаедзтва аднаасобнікам-біньдзюком Бандарэнкам (які ня меў уласнага пасеву) свайго меншага дзіцяці. Ён-жа, акрамя таго, забіў свайго пляменьніка.

Сяло Азёрнае – аднаасобнікам Кляцкіўскім забіты хлопчык Юркіўскага 13-ці гадоў ды зьедзены.

**Багуслаўскі р-н**

Сяло Маслаўка – грамадзянка (прозьвішча й стан ня ўказаныя) засіліла 3-х дзяцей, зьела й сама засілілася.

Сяло Маслаўка – цьвёрдаздатчыца (прозьвішча й стан ня ўказаныя) зарэзала й зьела сваю 3-гадовую дачку (заарыштаваная).

**Уманьскі р-н**

Сяло Качубееўка – муж зьеў жонку. Ён прazь увесь час быў аднаасобнікам, не хацеў уступаць у калгас, падчас палёвых працаў нідзе ня быў на рабоце, а жыў з таго, што часткова зьбіраў каласкі, і толькі сёлета ўступіў у калгас.

**Ставішчанскі р-н**

Сяло Аляксандраўка – Мамалінская А. Р., 52 г. н., разам з радзінаю, што складаецца з 6 душаў, зьелі 3-х уласных дзяцей: дачку 3 гадоў, хлопчыкаў 7 ды 10 гадоў. Паводле сьведчаньняў Мамалінскага, людаедзтва яны распачалі 31/I. Сям'я мае 90 трудаднёў.

**Сьмілянскі р-н**

Сяло Насачава – радзіна калгасьніка ў складзе мацеры ды дарослай дачкі запрасілі да сябе суседку-калгасьніцу 35 гадоў, запрасіўшы яе заначаваць. Уночы яе забілі, разабралі на кавалкі ды засалілі. Назаўтра намагаліся зьесьці ейную сястру, якая ўцякла й заявіла пра тое ў сельсавет, дзе быў прадстаўнік ДПУ. Ёсьць падстава меркаваць, што забойцы не галадавалі, у гаспадарцы ёсьць каза, знойдзена 150 крб. грошай, бульба таксама. Сьледзтва праводзіцца.

# Мартыралёг

*Працяг*

26. Бабей Цімафей Пятровіч, 1904 г., ур. Маладзечанскай вол. (Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у г. Томску, загадчык склада працоўнай калоніі НКВД № 1. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
27. Бабуль Язэп Вікенцьевіч, 1869 г., нар. в. Бабулі Богінскай вол. (Дзісенскага павета) Віленскай губ., жыў у Асінаўскім р-не, член калгаса "Памяти Кирова". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
28. Багуцкі Мікалай Васільевіч, 1909 г., нар. в. Гатавічы Мядзельскай вол. (Вілейскага павета Віленскай губ.), жыў у в. Шагарка, цясляр "Заготзерно". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
29. Баравы Сафон Венядзіктавіч, 1894 г., нар. в. Літвінкі Віленскай губ., жыў у г. Томску, шавец арцелі "Кожмех". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
30. Баркоўскі Адольф Казіміравіч, 1880 г., нар. в. Баркоўшчына (Будслаўскай вол.) Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у пас. Магочына Крывашэінскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
31. Баркоўскі Бранíслаў Казіміравіч, 1897 г., нар. в. Баркоўшчына Параф'янаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у в. Полазава Колбінскага с/с Крывашэінскага р-на, член калгаса ім. Кагановіча. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
32. Баркоўскі Восіп Мартынавіч, 1890 г., нар. в. Парэчча Параф'янаўскай вол. (Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Полазава, цясляр калгаса ім. Кагановіча. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
33. Баркоўскі Уладзімір Мартынавіч, 1909 г., нар. в. Баркоўшчына Параф'янаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у пас. Магочына, чорнарабочы леспрамгаса. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
34. Баркоўскі Франц Мартынавіч, 1897 г., нар. в. Варкоўшчына (в. Баркоўшчына Будслаўскай вол.) Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у пас. Дагочына Крывашэінскага р-на, цясляр лесазавода. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
35. Барэйша-Хіло Ануфрый Абросімавіч, 1888 г., нар. в. Альсевічы Вілейскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Мінаеўка Асінаўскага р-на, бухгалтар Асінаўскага леспрамгаса. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
36. Бондарава Агафія Нічыпараўна, 1878 г., нар. в. Манковішкі (Троіцкага павета) Віленскай губ., жыла ў г. Томску, пенсіянерка. Арыштавана ў 1941 г. Асуджана на 5 гадоў ППЛ і 3 гады пазбаўлення правоў.
37. Бранеўскі Канстанцін Нікадзімавіч, 1888 г., нар. в. Глінская (Ваўкалацкай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у г. Томску, шавец артылерыйскага вучылішча. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
38. Будзько Казімір Усцінавіч, 1891 г., ур. Вілейскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Асінава, цясляр. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
39. Булан Станіслаў Францавіч, 1892 г., ур. Віленскай губ., жыў у г. Томску на пл. Сянной, 6, муляр.

***Юзаф Русакевіч***

# “Малая радзіма” Зянона Пазьняка

Многія людзі ў Беларусі, Літве і ў цэлым сьвеце знаюць і паважаюць Зянона Пазьняка, але дзе ягоная Радзіма й што там рабілася й робіцца цяпер, ня ведаюць. Дый сам Зянон Пазьняк, напэўна, добра ня ведае, што там цяперака робіцца. Ягоным домам зрабіўся сьвет. Якніяк, а ўжо ці ня 7 гадоў езьдзіць па сьвеце, а да роднага дому паехаць ня можа – такія, як ён, людзі ў Беларусі прападаюць бязь сьледу, і ён у “чорным сьпісе” мінскіх уладароў на першым мейсцы.

Нядаўна мне пашчасьціла цэлы дзень “пасумоўнічаць” зь Зянонам Пазьняком тут у нас, у Літве. Скажу адразу, што ён, сапраўды, вялікі патрыёт Беларусі, ейнай гісторыі, культуры, мовы. Ён стаяў і стаіць за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны, і сам вельмі незалежная асоба. Ні ў палітыцы, ні ў сваім асабістым жыцьці ён ня церпіць ніякіх кагалаў і “саюзаў”, каб быць там заклёпкаю. Зянон Пазьняк ёсьць чалавек моцна адукаваны, ведае некалькі эўрапэйскіх моваў, дасканала чуецца ў Бэрліне, Варшаве, Нью-Ёрку, Санкт-Пецярбурзе. Аднак найбольш хацеў-бы быць у сябе дома – у Беларусі.

Многім здаецца (дый нават так пішуць пра яго), што ён здрадца, параўноўваюць з Жырыноўскім (прычым тут Жырыноўскі?), нават у “Царкоўным слове” яго ставяць поруч з бальшавікамі й лічаць найвялікшым ворагам беларускага народу. А не, дык параўноўваюць з бандытамі Арміі Краёвай, кажуць, што такія як ён, засьмецілі беларускую зямлю помнікамі Касьцюшкі, Агінскага, Манюшкі, Міцкевіча. Чытаеш такое й плакаць хочацца, гледзячы на такую тупасьць і неадукаванасьць, або нават атрафію пэўнай часткі гістарычнай памяці. Няўжо гэтыя гора-пісакі ня бачаць, як забруджаная ўся беларуская зямля, школкі й ВНУ, дзяржаўныя ўстановы й беларуская прэса? Забруджаная адвечным іншамоўем і іншаземʼем. Шмат хто цяпер у Беларусі імкнецца зноў накінуць на шыю беларускаму народу іншаземны хамут, каб ён цягнуў яго яшчэ гадоў сто, а можа й вечна. Шкада, што расейска-камуністычная пачвара засталася недавывучаная, што яна зноў дабралася да ўлады й да царквы, і цяперашнія ўладцы (былыя намэнклятуршчыкі) з сьвечкамі ў руках як нічога ніякага стаяць у цэрквах Масквы, Кіева, Менску і ў касьцёлах Вільні, хоць ты іх гуртам пасылай усіх у духоўную сэмінарыю. Нават сівыя стогадовыя бабулі й зморшчаныя вэтэраны з мэдалямі й ордэнамі героеў на грудзёх скоса пазіраюць на навасьпечаных вернікаў – сваіх новых хлебадайцаў і апекуноў.

Я ведаю Зянона Пазьняка ад малодшых школьных гадоў, з вучобы ў Суботніцкай сярэдняй школе. Суботнікі месьцяцца непадалёк ад цяперашняй беларуска-літоўскай мяжы, пад самым Дзевянішскім “апэндыксам”, каля Геранёнаў і Ліпнішак. Братоў і сёстраў Зянон ня меў. Бацька Зянона, Станіслаў Пазьняк, загінуў падчас вайны. Зянон жыў у маленькім дамку за касьцёлам каля рэчкі Гаўі з маці, каторая працавала на пошце. Лёгкага жыцьця ў Зянона не было. Змалку ён вылучаўся вялікімі здольнасьцямі. Яшчэ ў школе захапіўся мэдыцынай і авалодаў лацінскаю моваю. У такі самы спосаб вывучыўся й нямецкай мовы. Зарабіў грошы й купіў добры нямецкі фотаапарат, перад гэтым яго вучыў мастацкай фатаграфіі прафэсійны фатограф з санаторыю. Зянон сам зрабіўся фатографам-прафэсіяналам.



*Школа ў Суботніках, дзе вучыўся Зянон Пазьняк. 2002 г.*



*Зянон Пазьняк на рэчцы Гаўі. 2003 г*

Я быў на некалькі гадоў старэйшы, таксама многа рысаваў і фатаграфаваў, шмат чытаў (бацька мой служыў інтрылігатарам, цэлую зіму апраўляў розныя кнігі, так што чытаць у нас было што). Калі я паступіў на геаграфічны факультэт у Віленскі пэінстытут і пазьней, Зянон заўсёды кантачыў са мной. Вільня для яго была “сьвятым мейсцам”, тут ён чуўся, як рыба ў вадзе. Тым больш, што ягоны бацька да вайны жыў у Вільні, працаваў у беларускіх рэдакцыях і друкарнях.

Дзе-ж ты сёньня знойдзеш такога вучня, як Зянон? Кажуць, ужо зь ясьляў нарканаманы ёсьць, у садках пра сэкс ім распавядаюць, а потым, глядзі, пасьля інстытутаў ды ўнівэрсытэтаў робяцца лесьбіянкамі й гомасэксуалістамі, іншыя за акіян бягуць талеркі мыць ды вуліцы падмятаць. І толькі адзінкі застаюцца пры зямлі, пры жывёле, застаюцца кіраваць заводам, фабрыкай, уласнай фірмай.

У 1995 г. пісьменьнік У. Арлоў і мастак П. Драчоў дапамаглі Зянону Пазьняку выдаць цудоўную кнігу “фотавершаў” пад назваю “Глёрыя Патрыя”, у якой зьмешчаныя 192 фотаздымкі й 444 вершы пра Беларусь. Кніга прысьвячаецца закатаваным у часе вайны бацьку Станіславу й дзеду Яну, якіх ён ніколі ня бачыў...

Апошняе нашае спатканьне, пра якое я ўжо згадваў, адбылося напрыканцы сакавіка, надзвычай цёплым і сонечным днём. Як вандроўнік і краязнаўца, я запрапанаваў Зянону паехаць з фотаапаратамі на літоўска-беларускую мяжу й хоць-бы здалёку паглядзець ды палюбавацца нашымі роднымі Суботнікамі. Я-ж таксама не сваёй воляй зрабіўся эмігрантам і, каб патрапіць на сваю “малую радзіму”, кожнага разу змушаны абіваць парогі беларускай амбасады ў Вільні. Праехаўшы Рудніцкую пушчу, Яшуны, Салечнікі, Дзевянішкі ды шмат розных вёсачак, дабраліся да Шадзюнаў, што месьцяцца на самай граніцы. За савецкія часы бываў тут больш сотні разоў. У чацьвер езьдзілі сюды з Суботнікаў на базар, цераз Шадзюны езьдзілі ў Вільню, хадзілі пешкі ў палац графа Ўмястоўскага на танцы.

Ад Шадзюнаў лясной дарожкай падаліся ў бок Пагаўянаў, якія ўжо пры самай рацэ Гаўі. Прайшлі цераз некалькі вёсачак і хутароў, зусім спусьцелых, пачарнелых. Зь неба ліліся бясконцыя рулады жаваронкаў, з бусьлянкаў чуўся клёкат буслоў, шпакі адзін за адным насілі ў шпакоўні сухую траву. Зянон прысеў на пянёк на беразе Гаўі. То-ж рэчка нашая Гаўя, а чыстая якая! Нават рыбкі гуляюць з сабой і жабкі ўжо аджылі й паволі плаваюць. Далёка-далёка чуваць брэх сабакаў з таго боку, мабыць, з Суботнікаў, Лаўкенікаў або з Дабраўлянаў. Зянон прапанаваў узьлезьці на дрэва ды з вышыні паглядзець на Суботнікі, на крыжы касьцёлу, на дах школы й роднага дому, дзе яго чакае маці...

Ходзім па прыгранічнай вёсачцы, наўкол бязьлюдзьдзе, сабакі ня брэшуць, пеўні не сьпяваюць. Зарыпелі дзьверы ў хляве, выходзіць здаровы маладзён, ветліва здароваецца “па-просту”, кажа: “Ня ведаю, хто вы будзеце, хлопцы, і адкуль. Магу вам сказаць толькі адно: тут у нас прыгранічная зона й калі натрапіце на памяжоўнікаў, бяз штрафу не абыйдзецеся. Зьдзяруць з кожнага па тры тысячы літоўцаў!” Падзякавалі мы хлопца за інфармацыю, кінулі апошні позірк у бок нашых Суботнікаў ды падаліся назад, толькі іншай дарогай, праз Тургелі й Рудаміну ў Вільню. Праз пару кілямэтраў Зянон сказаў: “Як было тут усё скаламучана ад вякоў, так скаламучана й цяпер!” А яшчэ пазьней дадаў: “Тут заўсёды было, на што паглядзець, было, пра што паслухаць. Цудоўны наш край і цяпер! Веру, што XXI стагодзьдзе зноў будзе для яго залатым!” Хочацца верыць, што так яно й будзе, бо так не жадаецца пачынаць усё зноў з лука і каменнай сякеры.

---

# Віленскага краю

Арыштаваны ў снежні 1936 г. Пастановай намесніка гарадскога пракурора ў чэрвені 1937 г. накіраваны на лячэнне ў псіхіятрычны шпіталь.

40. Бумбіч Уладзімір Валерʼевіч, 1901 г., нар. в. Альшэвічы (Краснасельскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Раждзественка Зачулымскага р-на Томскай акругі, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1930 г. Расстраляны.
41. Бумбіч Ціхан Лаўрэнцьевіч, 1898 г., нар.в. Альшэвічы (Краснасельскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Раждзественка, млынар у сельгасспажыўсаюзе. Арыштаваны ў 1930 г. Асуджаны на 5 гадоў лагераў.
42. Буткевіч Павел Андрэевіч, 1876 г., нар. г. Друя Віленскай губ., жыў у в. Н-Аляксандраўка Крывашэінскага р-на, святар. Арыштаваны ў 1933 г. Пазбаўлены права пражывання ў 12 пунктах Уральскай вобл., Томскай і Нарымскай акр. з прымацаваннем тэрмінам на 3 гады.
43. Буцько Ігнат Мацвеевіч, 1895 г., нар. в. Папелічы Ашмянскага павета Віленскай губ., жыў у г. Томску, прадавец ларка гармалзавода. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
44. Бялевіч Адольф Сямёнавіч, 1888 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Межанінаўка Томскага р-на, лесаруб Томскага леспрамгаса. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
45. Бяляўскі Антон Мікалаевіч, 1882 г., ур. Лідскага павета Віленскай губ., жыў у в. Беласток Крывашэінскага р-на Нарымскай акр., член калгаса "Червоный штандарт". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
46. Вайніловіч Кірыла Іванавіч, 1896 г., нар. в. Красіўшчына Краснасельскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у г. Томску, ахоўнік. Арыштаваны ў 1943 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ.
47. Варанько Вінцэнт Вінцэнтавіч, 1883 г., нар. в. Бубны (Дунілавіцкай вол.) Вілейскага павета Віленскай губ., жыў на ст. Багашава, тэхнічны кіраўнік Томскай прамысловай арцелі "Краснодеревец". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
48. Васілёнак Андрэй Андрэевіч, 1885 г., нар. в. Попчышы Віленскай губ., жыў у пас. Петрапаўлаўскі Крывашэінскага р-на, калгаснік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
49. Ветушкін Сяргей Васільевіч, 1891 г., нар. в. Верамейкі Радашковіцкай вол. Віленскай губ., жыў на Маісееўскіх хутарах, член калгаса "Красная поляна". Арыштаваны ў 1932 г. Асуджаны на 10 гадоў лагераў.
50. Высоцкая Лізавета Францаўна, 1895 г., нар. в. Гейнаровічы Віленскай губ., зняволеная Томскай турмы № 1. Арыштавана ў 1938 г. Пакінуты ранейшы тэрмін пакарання - 3 гады ППЛ.
51. Вярбоўскі Ігнат Іванавіч, 1885 г., нар.в. Конюхі Віленскай губ., жыў у г. Томску, фельчар. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
52. Вярцінскі Антон Антонавіч, 1886 г., нар. в. Мішуты Віленскай губ., жыў у в. Канстанцінаўка Асінаўскага р-на, каваль калгаса "Долой хутора". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
53. Вярцінскі Франц Адамавіч, 1887 г., ур. Дзісенскага павета Віленскай губ., жыў у в. Канстанцінаўка Н-Кускоўскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1933 г. Асуджаны на 10 гадоў лагераў.

*Працяг будзе*

**Уладзімір Старчанка**

# Дыялёгі або нататкі ў мэтадалёгіі палітычнай дзейнасьці

## Дыялёг адзінаццаты

**- Ой, як добра ты ўмееш рабіць двайное сальта! Проста выдатна!**

- Дзякуй за камплімэнт. Але я лічу, што кожны чалавек, і малы і стары, павінен умець рабіць двайное сальта.

**- Навошта?**

- А тады ня будзе ні жабракоў, ні беспрацоўных, бо кожны зможа выступаць у цырку й зарабляць грошы.

**- Задумка, канечне, высакародная, але нерэалізуемая.**

***Выснова***. Ідэя барацьбы з жабрацтвам ня можа быць рэалізаваная ў такі спосаб. Па-першае, далёка ня кожнага старога й хворага чалавека можна навучыць рабіць двайное сальта. Па-другое, калі ўсе будуць выступаць у цырку, дзе ўзяць гледачоў, якія будуць плаціць грошы за прадстаўленьні? Па-трэцяе, хто будзе вырошчваць хлеб?.. Аднак спынім разгляд абсурдных сытуацыяў, якія вынікаюць з выказваньняў акрабата. Лепш зробім выснову, што масавая дзейнасьць ня можа грунтавацца на фокусах ды несыстэмных артэфактах, якія, бывае, назіраюцца ў індывідуальнай дзейнасьці.

***Камэнтар***. Сапраўды, эфэктыўная масавая дзейнасьць ня можа грунтавацца на фэнамэнальных узорах індывідуальнай дзейнасьці чалавека. Любая падобная спроба сутыкаецца з праблемай нерэалізуемасьці праекту, калі «гладка было на паперы, насамрэч усё чэрці зьелі». Масавая дзейнасьць ня можа быць пабудавана на глебе дзейнасьці індывідуальнай, бо яна кіруецца іншымі законамі. Тут дзейнічаюць законы масавай, а не індывідуальнай псыхалёгіі, законы вялікіх лікаў, а не лічбаў.

Адзін зь відаў масавай дзейнасьці – дзейнасьць калектыўная. Апошняя выглядае значна больш знаёмай, зразумелай і таму лягчэй кіраванай. Магчыма, што першым крокам на шляху вырашэньня праблемы можа стаць арганізацыя дзейнасьці масавай праз дзейнасьць калектыўную. А мадэлі калектыўнай дзейнасьці ўжо цяпер маюць задавальняючае апісаньне. Да таго-ж мадэлі калектыўнай дзейнасьці адшліфаваныя шматгадовай практыкай.

У самым першым прыблізьнені здольнасьць беларускага грамадзтва да зладжанай масава-палітычнай дзейнасьці характарызуецца такімі пакашчыкамі, як ступень моўна-этнічна-культурнай еднасьці насельніцтва, узровень нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, ступень расчалавечваньня асобы й разьяднанасьці людзей, узровень структураванасьці грамадзтва й сьпеласьць грамадзянскай супольнасьці, узровень палітычнай культуры й палітычнай арганізаванасьці, наяўнасьць палітычных ды дзяржаўніцкіх традыцыяў, стан грамадзкай салідарнасьці... Як-бы там ні было, але на практыцы даволі часта даводзіцца сустракацца з спробамі будаваць масавую дзейнасьць на зьнешне лягічных побытава-прадметных разважаньнях.

***Прыклад***. Адзін сябра адной арганізацыі ахвяраваў на ейную карысьць 1000 рублёў. Скарбнік пабудаваў лягічны ланцужок: а) у арганізацыі 1000 сябраў; б) калі кожны сябра ахвяруе па 1000 рублёў, у арганізацыі будзе 1 000 000 рублёў; в) на гэтыя грошы купім недарагі кампутар і прынтар; г) пачнем друкаваць улёткі... Праект скарбніка падтрымала кіраўніцтва арганізацыі й заклікала людзей здаваць грошы. Аднак праект праваліўся, бо, як высьветлілася, далёка ня кожны сябра арганізацыі быў здольны або меў жаданьне ахвяраваць нават 500 рублёў. Таму сабраных грошай хапіла толькі на дзіракол і сушчэпкі для паперы. Цяпер у гэтай арганізацыі, перш чым будаваць падобныя праекты, ацэньваюць рэальныя магчымасьці арганізацыі ў справе збору ахвяраваньняў. І правільна робяць.

***Палітычная аналёгія***. У беларускіх незалежных СМІ часта можна пачуць сцьверджаньне, што ў Беларусі налічваецца каля двух мільёнаў дарослых нацыянальна-дэмакратычна арыентаваных людзей. Гэты лік аналітыкі выводзяць з афіцыйных і неафіцыйных вынікаў рэфэрэндумаў і выбараў, сацыялягічных апытаньняў, а таксама з вынікаў перапісу насельніцтва 1999 г. У названы лік увачодзяць тыя людзі, для якіх маюць хоць нейкае значэньне беларускія нацыянальныя каштоўнасьці (мова, гістарычная й культурная спадчына, нацыянальная годнасьць, дзяржаўнасьць, незалежнасьць, суверэнітэт і пад.) і каштоўнасьці дэмакратычныя (правы й свабоды чалавека й нацыі), якія засьведчылі ў нейкай форме (найчасцей у форме тайнага галасаваньня) сваю грамадзянскую пазыцыю. З гэтымі разьлікамі ў прынцыпе можна пагадзіцца. Аднак палітычная практыка сьведчыць, што схіліць гэтую грамаду да актыўнага супольнага палітычнага дзеяньня, проста трансплянтуючы на грамадзтва ўзоры індывідуальнай чалавечай дзейнасці, і не ўдаецца.

Сярод згаданых мільёнаў ёсьць непахісны й бясстрашны змагар з каляніяльным рэжымам – віцябчук Уладзімір Плешчанка, які, нягледзячы на арышты, месяцы за кратамі, мільёны штрафаў, збіеньні, апісаньне маёмасьці, зноў і зноў бярэ ў рукі самаробны плякат і выходзіць на несанкцыянаваныя акцыі. Верагодна, што для таго, каб пакончыць з рэжымам, двум мільёнам было б дастаткова толькі адзін раз выйсьці на вуліцу й выразна выказаць сваю грамадзянскую пазыцыю. Аднак два мільёны арыентуюцца не на героя-Плешчанку, а на сярэднестатыстычнага Пятра Антопку, пра нацыянальна-дэмакратычную арыентацыю якога не здагадваюцца ні жонка, ні бліжэйшыя сябры, бо ён нікому так і не расказаў, як аднойчы ў цёмнай кабіне прагаласаваў за Пазьняка. Мільёны антопак нічога ня маюць супраць дзяржаўнай незалежнасьці, беларускай мовы, нацыянальнага ўраду й правоў чалавека, але яны разьяднаныя й ніяк не звязаныя паміж сабою, у іхных галовах мешаніна з руска-беларускай трасянкі, выказваньняў з «Советской Белоруссии» і «Народнай волі», цытатаў з БТ і НТВ, палітычных разважаньняў суседкі-настаўніцы і ейнага сына-студэнта. У рэшце рэшт, антопкі ня ведаюць навошта, што й як (у палітычным сэньсе) можна й трэба рабіць нават тады, калі ім здаецца, што больш па-ранейшаму жыць нельга. Пры любым раскладзе антопкі схільныя шукаць індывідуальную (звычайна дачна-рынкавую) траекторыю выжываньня й нават не ўяўляюць, што можна вырашыць праблему салідарна. Да таго-ж арганізаваныя рэжымам умовы жыцьцядзейнасьці антопкаў такія, што натуральным выбарам для іх зьяўляецца палітычная пасыўнасьць, а не палітычнае змаганьне. Трэба падкрэсьліць, што, разумеючы важнасьць справы, улады прыкладаюць нямалыя намаганьні, каб пэрманентна арганізоўваць і падтрымліваць гэтыя спэцыфічныя ўмовы... Увогуле, калі гаварыць менавіта пра дарослых антопак, дык іх у Беларусі ня два, а 6-7 мільёнаў, бо тыя два, што патрапілі пад пяро аналітыкаў, мала чым адрозьніваюцца ад тых чатырох-пяці, што ад яго (пяра) ўхіліліся.

Каляніяльныя ўлады добра ведаюць, што антопкі - вельмі слабая й ненадзейная сацыяльная база рэжыму, бо антопкі не падтрымліваюць рэжым, проста яны вымушаныя зь ягоным існаваньнем маўкліва пагаджацца. Таму каляніяльныя ўлады пільна сочаць, каб ступень нават фармальнай арганізаванасьці антопкаў не павялічвалася, і, напрыклад, адразу пачалі разбурэньне нікчэмных «афіцыйных» прафсаюзаў, як толькі апошнія «заварушыліся ў сьне» падчас прэзыдэнцкай кампаніі-2001. Яшчэ больш улады баяцца ідэйнага яднаньня беларусаў, і асабліва на нацыянальным грунце. Гэтага баяцца найбольш, бо ведаюць, што ўсе масавыя палітычныя акцыі ў Беларусі за апошнія 14 гадоў праходзілі выключна пад нацыянальнымі колерамі й заклікам «Жыве Беларусь!», у той час як усе спробы ўзняць людзей на каўбасна-эканамічны працэст заканчваліся нічым. Адсюль зьнішчэньне беларускай школы, перасьлед беларускай мовы й нацыянальнай сымболікі і ўсяго таго, што выступае носьбітам і сродкам трансьляцыі беларускай нацыянальнай ідэі ды культурнай традыцыі. Арганізаваны каляніялізмам разрыў нацыянальнай культурнай традыцыі, паломка мэханізмаў беларускага нацыянальнага існаваньня і ўзнаўленьня - найбольшая праблема беларускага грамадзтва, якая сур'ёзна ўскладняе задачу ягонай кансалідацыі.

Паколькі я ўсё-ж не ўтрымаўся ад папярэдняга (пераважна апісальнага) аналізу, давядзецца зрабіць хоць нейкія высновы. Відавочна, масавая дзейнасьць патрабуе кансалідацыі грамадзтва праз усталяваньне (аднаўленьне) духоўных, ідэйных, генэтычных, культурных, гістарычных, эканамічных ды іншых сувязяў паміж ягонымі адзінкамі, якія павінныя ўсьвядоміць сваю еднасьць, агульнасьць інтарэсаў, магчымасьць салідарных дзеяньняў. Цяпер кансалідацыя беларускага грамадзтва магчымая на грунце нацыянальнай ідэі. У гэтай справе не абыйдзесься без асьветніцкай, культурніцкай, адраджэнскай дзейнасьці, без дэманстрацыі ўзораў беларускага сьветапогляду і жыцьцядзейнасьці (у тым ліку й палітдзейнасьці). Уся гэтая работа патрабуе стварэньня тэарэтыка-ідэйнага, ідэалягічнага грунту беларускага адраджэньня. І ўсё-ж адной асьветніцкай працай ды гераічнымі прыкладамі беларусаў зь месца не зрушыш, хаця, паўтаруся, без асьветніцтва й дэманстрацыі ўзораў гераічнай дзейнасьці ніяк не абысьціся. Патрэбны мэханізм кансалідацыі, і ў прынцыпе ён вядомы, - гэта беларуская салідарнасьць, якая можа выступаць як арганізатар, сродак і спосаб калектыўнай дзейнасьці. Спатрэбіцца таксама структураваньне грамадзтва на прынцыпах беларускай салідарнасьці. Сетка беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў павінная стаць «клеем», які зьяднае беларускую нацыю ў жыцьцяздольнае цэлае. Аднак, каб гэтае цэлае ажыло і ўключылася ў мэтанакіраваную палітдзейнасьць, павінныя быць створаныя такія ўмовы, пры якіх для мільёнаў людзей-элементаў гэтага цэлага натуральным жыццёвым выбарам стала-б палітычна актыўнае дзеяньне, а не бязьдзеяньне.

І яшчэ адзін штрых. Трэба ўлічваць, што на цяперашні час большасьць беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў не выконваюць свае місіі, бо яны ўцягнутыя пад дах Аб'яднанай апазыцыі (АА), якая выступае на палітычнай арэне, як «другая рука» расейскага імпэрыялізму. Таму калі яны й кансалідуюць частку грамадзтва, дык толькі для таго, каб тым ці іншым спосабам уцягнуць у антыбеларускую дзейнасьць. Пры гэтым «першая рука» – Каляніяльная адміністрацыя (КА) – нягледзячы на тое, што яна цалкам валодае ворганамі й структурамі дзяржаўнай улады й кіраваньня, мае, падтрымлівае й разьвівае сваю сетку арганізацыяў (ад ветэранскіх і прафсаюзных да БПСМ). Робіцца гэта ня толькі з мэтай кансалідацыі «пятай калёны», але й з мэтай уцягненьня, найперш маладых «антопкаў», у антыбеларускую дзейнасьць.

# Запрашэньне на вайну

Нядаўні візыт міністра абароны Расеі ў Беларусь быў ня вельмі афішаваны, але вельмі шматзначны. Заключаная ў рэшце рэшт дамова аб тым, што беларускія вайскоўцы змогуць служыць у расейскай арміі на добраахвотных пачатках. Зразумела, гэта папярэдняя дамова, зразумела, наперадзе шмат працэдураў узаемаўзгадненьняў, дамоваў, ратыфікацыяў. Але папярэдняе й самае галоўнае слова сказанае. Беларусы будуць служыць у расейскай арміі.

І тут нельга ня ўспомніць мінулае. Некалі нам абяцалі, што ў якія-б „саюзы“ не ўступала незалежная Беларусь — гэта толькі саюзы з мэтай абароны, нават сумеснай абароны ейнай незалежнасьці. І ніколі, маўляў, беларускі салдат ня ступіць на тэрыторыю іншых дзяржаваў. Уласна кажучы, на гэтым будавалася й пра гэта цанілася ў эўрапэйскай супольнасьці пазыцыя нашае краіны. А нядаўна на экранах тэлевізара мы пабачылі ўсьмешку міністра абароны суседняй краіны й пачулі: мы прыймем добраахвотнікаў, але браць будзем толькі тых, хто нам патрэбны.

Ці патрэбны тут камэнтар? Думаю, патрэбны. Па-першае, сам статус дабраахвотніка юрыдычна вельмі нявызначаны. Беларускі вайсковец, які выказаў жаданьне служыць у расейскай арміі, ці-ж добраахвотнік ён? Армія — гэта найперш дысцыпліна й падпарадкаваньне вышэйстаячаму камандаваньню. Таму, калі афіцэр або іншы вайсковец выказвае жаданьне служыць у арміі суседняй дзяржавы, ён ня можа абыйсьціся бяз згоды свайго непасрэднага камандзіра. А калі камандзір непрыкметна й пакрысе падштурхне свайго падначаленага на пераход у чужую армію, ці зможа той адмовіцца ад гэтага? Ня думаю. У Аўганістан таксама спрэс ішлі „дабраахвотна“.

Расейскі міністар абароны весьціць, што будзе браць толькі тых, хто сёньня патрэбны расейскай арміі. Пра што йдзе гаворка? Я думаю, што ў Маскоўскай ваеннай акрузе беларусы-вайскоўцы непатрэбныя. А вось на Каўказе, ці дзе яшчэ, вельмі прыдадуцца.

Прайшлі перадвыбарчыя баталіі. Абраны той, хто абраны. Аднак помніце, беларускія маці, наперадзе вас чакаюць такія самыя выпрабаваньні, якія былі ў часе аўганскай вайны. Мы зноў робімся закладнікамі палітыкі амбіцыяў і сакрэтных пагадненьняў. Скажам: „Не вайне ў Іраку!“ Але: „Не вайне ў любой частцы сьвету!“

**Алесь Касьцень**

*(“Вольнае Глыбокае”)*

*Валеры Арцішэўскі*

# Папулізм – калыска тыраніі

Папулізм - палітычная плынь, якая прапаведуе прынцып прыярытэту «волі народу», апелюе непасрэдна да «народу» й характарызуецца імкненнем лідэраў да простых кантактаў з масамі без пасрэдніцтва якіх-колечы палітычных інстытутаў.

Другая сусьветная вайна, ейныя вынікі садзейнічалі павелічэньню інтэнсыўнасьці нацыянальна-вызвольнага руху, разбурэньню каляніяльнай сыстэмы. На ўсіх кантынэнтах плянэты народныя масы прыходзяць у стан павышанай сацыяльнай актыўнасці. Хутка расьце колькасьць незалежных дзяржаваў, маладыя палітычныя эліты каторых, як правіла, абвяшчаюць вернасьць дэмакратыі. І ў той самы час усе яны прапаведуюць ідэалёгію папулізму, г. зн. прыярытэт «волі народу». Папулізм прыкрываецца альбо пропаведзьдзю клясавай барацьбы й прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму, альбо барацьбой за правы й свабоды чалавека. Гэта бязьмежныя прасторы для дэмагогіі ды атрыманьня папулярнасьці сярод палітычна неадукаваных народных масаў. І ў першым, і ў другім выпадках папулізм нацыянальна-вызвольнага руху прыводзіць ягоных носьбітаў да ўтварэньня новых дзяржаваў ці іншай формы дзяржаўнага кіраваньня. Аўтаматычна новыя правячыя эліты становяцца адказнымі за матар'яльны дабрабыт і духоўны камфорт сваіх народаў. Але, практычна, усе яны некампэтэнтныя вырашаць паўсталыя перад імі задачы. Міністар гідрарэсурсаў рэспублікі Алжыр (1973 г.) у прыватнай размове сфармуляваў гэтую зьяву наступным чынам: «Мы будуем сацыялізм, але што гэта такое, ніхто ня ведае. Ні прэзыдэнт, ні ўрад не ўяўляюць, куды мы ідзем і вядзем народ. Мы жывём адным днём». Лідэры маладых дзяржаваў, іх палітычныя эліты (бюракратыя вышэйшых эшалёнаў улады), праяўляючы некампэтэнтнасьць у кіраваньні дзяржавай, вельмі хутка ўсьведамляюць прывабнасьць асабістых прывілеяў, якія ім дае ўлада. І таму клопат аб дабрабыце народу, ягоным духоўным камфорце ў папулістаў лягічна трансфармуецца ў клопат, як захаваць уладу любымі сродкамі. У першы чарод пачынаецца бязьлітасная барацьба зь сіламі апазыцыі (іншадумствам) да іх поўнага падаўленьня, фізычнага зьнішчэньня, альбо выцясьненьня за межы дзяржавы. Крок за крокам, правы й свабоды заканадаўча адбіраюцца ў народа й акумулююцца ў правячага кляну. Дэмакратычныя працэдуры (выбарнасьць улады) ператвараюцца ў атрыбуты ўзвышэньня лідэра правячага кляну - наваяўленага «генія й адзінага барацьбіта за дабрабыт народу».

Папулізм дабрасумленна служыць тыраніі, афармлены ў ідэалёгію, якая абавязаная ўзвышаць дыктатара. Самадурства палітычнай эліты робіцца ўседазволенасьцю й пачынаецца дэградацыя дзяржавы, замбіраваньне народу, вяртаньне яго ў рабскі стан. Законы перастаюць выконваць свае функцыі. Выбары даюць вынік, які заказвае дыктатар пры перавыбарах яго на новы пэрыяд кіраваньня. Сам дыктатар пачынае шчыра верыць у сваю геніяльсаьць і мудрасьць. Гэтыя віртуальныя якасьці тырана штодзень замацоўваюцца ў свядомасьці народу ўсімі СМІ, усёй магутнасьцю дзяржаўнай машыны. Кожнае глупства, выказанае тыранам, тыражуецца СМІ, як скарбніца мудрасьці. Гэта эфэктыўны мэтад абалваньваньня людзей. Так стандартна й безадказана вырашаецца праблема бясьпекі ўлады кіруючай эліты ўнутры краіны.

У сучасны момант, з 253 сувэрэнных дзяржаваў, большая частка мае дыктатарскія альбо блізкія да іх рэжымы. Усе яны заклапочаныя толькі забясьпечаньнем сваей зьнешняй бясьпекі, бо праблемы ўнутранай бясьпекі ў іх вырашаныя. Другая палова XX ст. - гэта залаты час для дыктатараў. Іх недатыкальнасьць, беспакаранасьць забясьпечвалася бязьлітасным супрацьстаяньнем дзьвюх глябальных палітычных сыстэмаў. Кожная зь іх песьціла, улагоджвала й абараняла сваіх дыктатараў (сукін сын, але наш ), старалася пераманіць на свой бок чужых. Сваіх падсілкоўвалі фінансамі, навукаёмкімі тэхналёгіямі, узбройвалі, забясьпечвалі тэхналёгіямі вытворчасьці зброі масавага паражэньня (ядзернай, хімічнай, біялягічнай). Так клапатліва вырашалася зьнешняя бясьпека дыктатарскіх рэжымаў.

Але вось апірышча глябальнай камуністычнай тыраніі (СССР) пад узьдзеяньнем унутраных разбуральных сілаў (у цалкавітай адпаведнасьці з фундамэнтальным прынцыпам самаарганізацыіі матэрыі) мірна спыняе свё йснаваньне. На тэрыторыі СССР узьнікаюць 15 незалежных дзяржаваў. Маладыя эліты новых дзяржаваў, у сілу спэцыфікі выхаваньня савецкага чалавека, прапаведуюць ідэалёгію папулізму, афарбаваную ў камуністычнае адценьне, якая хутка прыводзіцць дзяржавы Азіі й Каўказу да дыктатарскіх рэжымаў. Расейская палітычная эліта, верная сваім імпэрскім амбіцыям і шматвекавой ідэалёгіі тэрарызму, актыўна падтрымлівае гэтыя дыктатарскія рэжымы. Яна разумее, што дыктатарскія рэжымы будуць шукаць у яе абароны ад зьнешняй небясьпекі й таму будуць ад яе залежыць. Менавіта ў гэтым прычына таго, што Расея пайшла практычна на дзяржаўны пераварот і ўтварэньне ў Беларусі дыктатарскага рэжыму, адкрыта забясьпечваючы яму зьнешнюю абарону ды інтэнсыўна рыхтуючы паглынаньне Беларусі. Толькі тром краінам Балтыі, дзякуючы кампэтэнтнасьці іхных палітычных элітаў і высокай нацыянальнай самасьвядомасьці іхных народаў, удалося скінуць расейскую ўдаўку ды вярнуцца на шлях дэмакратычнага разьвіцьця. Зьяўляюцца шанцы пераходу на шлях дэмакратычнага разьвіцця ва Ўкраіны, палітычныя партыі якой бесперапынна павялічваюць свой уплыў у масах.

Пэрманентнае разбурэньне Расейскай імпэрыі, аслабленьне ейных пазыцыяў на міжнародным узроўні прывяло да таго, што дыктатарскія рэжымы аказаліся зьнешне неабароненымі. Іх залаты век закончыўся. Яны беспамылкова зразумелі, што найбольшую небясьпеку для іхнага йснавання уяўляюць ЗША з іхнымі даўнімі інстытутамі дэмакратыі. Лёс рэжыму Мілошавіча гэта поўнасьцю падцьвердзіў. Тыранія трымаецца на запужваньні, на страху людзей, на іх фізычным зьнішчэнні - на тэроры. Таму ўсю магутнасьць, сваю нянавісьць да свабоды міжнародная тыранія сканцэнтравала на ЗША. Гэта - прычына трагедыі 11 верасня.

Выпрацаваныя новая стратэгія й тактыка дзеяньняў ЗША супраць тэрарызму аказаліся дастаткова эфэктыўнымі. Маланкавы разгром дыктатуры талібаў часткова стабілізаваў становішча ў Сярэдняй Азіі й пакінуў расейскім палітыкам і палітолягам толькі аналітычныя агляды аб узмацненьні «экспансіі ЗША», але пазбавіў іх магчымасьці пужаць талібамі ўвесь сьвет. Пасьлядоўныя й мэтанакіраваныя дзеяньні ў справе раззбраеньня Іраку, зьнішчэньня дыктатуры Садама Хусэйна, стабілізуюць становішча на Бліжнім Усходзе, пазбавяць міжнародны тэрарызм значнай фінансавай падтрымкі. А шматтысячныя мітынгі людзей плянэты супраць вайны ў Іраку паказалі, што чалавецтва яшчэ мае, як ня дзіўна, вялікі духоўны патэнцыял, людзі гатовыя ахвяраваць сабою ў імя міру на зямлі. Гэта ёсьць велізарнае духоўнае багацьце цывілізацыі.

Аднак папулісцкія дзеяньні лідэраў Францыі, Нямеччыны ды Расеі паказваюць іхную палітычную некампэтэнтнасьць, прыхаваныя эгаістычныя інтарэсы, якія супярэчаць інтарэсам сусьветнай супольнасьці, ейнаму ўстойліваму разьвіцьцю. Іхныя дзеяньні супадаюць з пазыцыяй простай беларускай жанчыны, якая ад усяго сэрца заяўляе:

- Я супраць вайны ў Іраку. Там гінуць дзеці й жанчыны, ні ў чым непавінныя людзі - гэта жах!

- Я поўнасцю з Вамі згодны. Гэта - жах! Але дазвольце прачытаць Вам некалькі радкоў з артыкулу Энн Клуіда (НВ, 28.03.03): «Там была машына для драбленьня плястмасы. У яе загружалі людзей, і нас зноў прымушалі глядзець. Калі пад нож трапляла галава, тады чалавек паміраў хутка. Некаторыя людзі траплялі пад нож нагамі, і тады яны паміралі...»

- Перастаньце гэта чытаць, я зараз страчу прытомнасьць!

- Дык што-ж рабіць? Дыктатары ніколі дабраахвотна не аддадуць уладу. Яны са сваёй палітычнай элітай штодзённа ажыцьцяўляюць палітычныя забойствы, калечаць фізычна й духоўна свой народ, уключаючы дзяцей і жанчынаў. Гэта неабходная ўмова існаваньня дыктатарскага рэжыму, які бесперапынна нараджае ды павялічвае разбуральныя сілы ўсёй цывілізацыі.

- Я ня ведаю, што рабіць...

Калі ўлада робіць злачынствы, а народ не змагаецца зь ёю, народ - саўдзельнік злачынстваў, бо стварыў такую ўладу. Просты чалавек можа й ня ведаць, што рабіць з дыктатарскім рэжымам. Але гэта не дазваляльна кіраўнікам краінаў, якія лічаць сябе дэмакратамі. Папулізм не сумяшчальны з дэмакратыяй, якая адзінай крыніцай улады лічыць народ і прапаведуе салідарнасць народаў. Народ Іраку атрымаў рэальную дапамогу, каб зьмяніць свой лёс, вярнуць, забраныя ў яго Садамам Хусейнам і пануючай палітычнай элітай, правы й свабоды, пайсьці па шляху дэмакратычнага разьвіцьця. І за гэта народ Іраку, міжнародная супольнасьць павінныя дзякаваць народам і палітычным элітам ЗША, Вялікабрытаніі ды іхным саюзьнікаў, якія рашуча ўзялі на сябе маральную адказнасьць, матар'яльныя затраты, людзкія страты, каб пакончыць з крывавым рэжымам.

На вялікі жаль, існуючай антыдыктатарскай кааліцыі, нягледзечы на ейную моц, справіцца з тэрарызмам не пад сілу. Рэжым тыраніі (ўседазволенасьць кіруючай эліты) нават у самай маленькай дзяржаве зьяўляецца ідэальнай крыніцай (магутным генэратарам) нараджэньня й размнажэньня вірусу тэрарызму, які нясе ў сабе велізарную разбуральную сілу для цывілізацыі.

Рэзюмэ. Толькі ўся супольнасьць сьвету ў рамках ААН можа стварыць магутны заслон тэрарызму, калі ў яе хопіць палітычнай мужнасьці прыняць рэзалюцыю аб недапушчальнасьці йснаваньня дыктатарскіх рэжымаў у XXI ст. і калі яна будзе весьці з дыктатарскімі рэжымамі барацьбу ўсімі сродкамі. Гэта адзін з найэфэктыўннейшых напрамкаў пераадольваньня глябальнага сыстэмнага крызысу нашай цывілізацыі, які штодня пашыраецца, адна зь неабходных умоваў пераходу чалавецтва да ўстойлівага эвалюцыйнага разьвіцьця.

# Беларусь прадае зброю краінам НАТА ў абмен на гарбату

Няма нічога таемнага, што не стала-б вядомым. Так сцьвярджае біблійная мудрасьць. Гэта ў поўнай ступені адносіцца й да такой далікатнай тэмы, як гандаль зброяй. Нягледзячы на занавес сакрэтнасьці, цяпер стала вядома, што беларуская зброя знаходзіцца на ўзбраеньні арміі Рэспублікі Турцыя. А пачыналася ўсё ў 1995 г. З 10 па 15 сьнежня 1995 г. у Менску пабывала афіцыйная турэцкая дэлегацыя ў складзе намесьніка міністра абароны, генэрал-маёра Саіма Таезджана, штабнога палкоўніка (Галоўнае камандаваньне сухапутных войскаў) Таяра Элмаза, штабнога палкоўніка Дэра Акчу, падпалкоўніка Лявэнта Патэра, маёра Ілхана Озджана, маёра Аднана Ярбашы, старэйшага лейтынанта А. Джунейта Эргувена ды прадстаўнікоў ваенна-прамысловага камплексу Турцыі спадара Тукджэра й Хаміта Ванлі. Турэцкі бок выказаў зацікаўленасьць у набыцьці бронетранспарцёраў БТР-80 й БТР-60, транспарцёраў ад 22 да 65 тонаў й да іх адмысловых камплектацыяў, ручных супрацьтанкавых гранатамётаў РПГ-7 і зарадаў да іх, стралковай зброі (снайперскія вінтоўкі СВД, аўтаматы АКСМУ, кулямёты ПКСМ), патронаў 7,62, 5,45 мм, 14,5 мм запальваючых куляў, бінокляў ды прыцэлаў начнога бачаньня. У мэмарандуме турэцкага боку гаварылася: "Амбасада Рэспублікі Турцыя засьведчвае сваю павагу Міністэрству Замежных Справаў Рэспублікі Беларусь і мае гонар паведаміць, што турэцкая дэлегацыя, узначальваемая генэрал-маёрам Саімам Таезджанам, Намесьнікам Савета Міністэрства Абароны Турцыі, наведае Рэспубліку Беларусь з 10 па 15 сьнежня 1995 г. Турэцкая дэлегацыя плянуе вывучэньне ваеннай тэхнікі, якая можа быць набытая турэцкімі ўзброенымі сіламі ў абмен на гарбату, каторая будзе экспартаваная з Турцыі ў Беларусь. Паводле распараджэньня Міністэрства абароны Рэспублікі Турцыя неабходная інфармацыя, якая тычыцца гэтага візыту, была перададзеная сп. І. І. Ціцянкову, кіраўніку Адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Амбасада была-б вельмі ўдзячная, калі-б вышэй згаданая інфармацыя была перадзеная Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь".

Як вынікае з тэксту, пальма першынства ў перамовах у гандлі зброяй належыла не ваеннаму ведамству, а тады яшчэ ўсемагутнаму Ціцянкову. Нашыя ваенныя толькі дэманстравалі туркам узоры ўзбраеньня ў вайсковых частках, дыслацыраваных ва Ўруччы й Барысаве, Беларускай Вайсковай акадэміі. Пратакол аб намерах з боку МА Беларусі падпісаў намесьнік міністра абароны ўзбраеньня генэрал-лейтэнант Міхаіл Статкевіч.

Зараз наўрад ці зьявіцца магчымасьць даведацца, колькі нашай баявой тэхнікі й стралковай зброі загрузілі ў грузавыя самалёты на аэрадроме Мачулішчы перад адпраўкаю у Турцыю. Але беларусы напэўна памятаюць той пэрыяд, калі ў 1996-97 г.г. прылаўкі крамаў былі заваленыя турэцкаюгарбатаю, далёка не вышэйшай якасьці. Узьнікаюць пытаньні й іншага пляну. Хто пралічыў эканамічную выгаду пагадненьня? Ці не нанесла яна страту абараназдольнасьці ўзброеных сілаў Рэспублікі Беларусь? Цм не адаб'еццa гэты палітычны кантэкст гандлю зброяй з краінай НАТА ў адносінах з асноўным саюзьнікам – Расеяй? І, нарэшце, галоўнае пытаньне – грошы ад рэалізацыі гарбаты пайшлі ў бюджэт краіны ці ў г. зв. Прэзыдэнцкі фонд?

***"Зводка Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру" № 6***

*Уладзімір Крылоўскі*

# Хопіць! Абрыдлела! Можна, нарэшце, пра што-небудзь іншае?

*Заканчэньне. Пачатак у № 48*

* * *

Вельмі сымбалічна, што на парозе 3-га тысячагодзьдзя зьявілася такая арганізацыя, як Таварыства Вязьняў Фільтрацыйных Лягероў! Чалавецтва безагаворачна й аднагалосна абвесьціла прыярытэтамі ідэалы дэмакратыі й правы чалавека! Гуманнасьць і чалавекалюбства! Гэта на словах, а на справе – цэлы народ сьціраецца з твару зямлі пры маўклівай згодзе сваіх спакрэвічаў-зямлянаў! Скалечаныя й зьнявечаныя сыны народу Чэчэніі, ахвяры расейскага дзяржаўнага тэрарызму, аб'ядноўваюцца ў спэцыяльнае Таварыства паводле прыкметы сваёй зьнявечанасьці.

У адным з дакладаў Таварыства маецца апісаньне аднаго катаваньня, прымененага фэдэраламі яшчэ ў 1-ую Чэчэнскую вайну: вязьня кідаюць у клетку з сабакамі, каторыя літаральна разрываюць яго на часткі. Астатніх змушаюць на гэта глядзець. Памятаеце, як у канцлягерох эсэсаўцы адумыслова вывучанымі сабакамі цкавалі зьняволеных? *(www.groups.yahoo.com/group/Chechnya-sl, 06.02.02., «Facts are accusing»).*

Там-жа апісваецца яшчэ адно катаваньне зь 1-ай Чэчэнскай вайны, якім сучасныя расейскія каты заткнулі за пояс сваіх эсэсаўскіх калегаў. Пасьля допыту вязьня, як правіла, ледзь жывога, прыводзяць у камэру й, каб ня даць яму магчымасьці ачомацца, абліваюць халоднаю вадою й пасыпаюць хлорным вапняком. Цераз некаторы час яго зноў абліваюць вадою й пасыпаюць вапняком... І гэтак некалькі разоў.

* * *

Дарэчы, старшыня Таварыства Ваха Банжаеў, які камандаваў у мінулую вайну адным з накірункаў абароны Грознага, прайшоў тады расейскі палон, зьяўяецца непасрэдным сьведкам нізасьці расейскага генэралітэту, захрасшага ў двух чэчэнскіх войнах. Страшэнна зьбіты ваеннымі (яму зламалі пазваночнік, адбілі ныркі, раздрабілі нос), Ваха памылкова быў кінуты ў морг (выратаваў яго работнік Чырвонага Крыжу, які там выпадкова апынуўся і ўбачыў, што Банжаеў дыхае). А перад гэтым на адным з допытаў цяпер нябошчык расейскі генэрал Леў Рохлін, нічым ня грэбуючы, зьбіваў ягоны твар кулаком у крывавае месіва. А тадышні дырэктар ФСБ Віктар Сьцяпашын (цяпер старшыня Еўрапэйскай Арганізацыі Вышэйшых Рэвізійных Ворганаў), гэты, здавалася-б, інтэлігентны, рафінаваны Сцяпашын, з усяго размаху пальчаткаю біў яго па зьнявечаным твары. Нешта я ня чуў, каб эсэсаўскія генэралы займаліся асабістым рукапрыкладніцтвам.

* * *

Вышэйзгаданы даклад міністра аховы здароўя ЧРІ Умара Ханбіева, зроблены ім мінулым летам на паседжаньні Камісіі па правах чалавека пры ААН, гэта ўнікальны дакумант, якому яшчэ належыць заняць сваё мейсца ў абвінаваўчым выраку міжнароднага суду над ваенымі злачынцамі чэчэнскіх вайнаў (тое, што такі суд рана ці позна адбудзецца, не выклікае ў мяне ніякіх сумненьняў). У дакладзе пададзеная разгорнутая сыстэма безсудовага зьнішчэньня й масавага ператварэньня ў інвалідаў вязьняў расейскіх фільтрацыйных лягероў. Некаторыя прыведзеныя там факты (прычым, іх нямала) зноў вяртаюць нас да паралелі "расейскія фільтры" – "гітлераўскія канцлягеры".

Як і ў нацысцкіх канцлягерох у расейскіх "фільтрах" да катаваньняў і зьдзекаў над зьняволенымі маюць дачыненьне дыпламаваныя дактары: маюцца доказы складаных доктарскіх маніпуляцыяў дзеля асягненьня большага болю, дзеля нанясеньня вязьням загадзя заплянаванага пашкоджаньня, нарэшце, дзеля іхнага забойства, калі гэта неабходна. Напрыклад, прымяняецца шэраг мэтодыкаў (нямецкі доктар Мэндэль пазайздросьціў-бы!) разбурэньня ў мужчынаў прастацельнай залозы з мэтаю залішэньня іх дзетародных функцыяў.

Маецца шмат доказаў таго, што ў цяперашнюю чэчэнскую вайну расейскія вайскоўцы (як і паўстагодзьдзя назад іхныя нацысцкія калегі) выпрабоўвалі на вязьнях новыя атрутныя рэчывы. Ёсьць шматлікія сьведчаньні вельмі вытанчаных і тэхнічна прадуманых катаваньняў, што сьведчыць пра іхнае лябараторнае (дакладней, "спэцлябараторнае") паходжаньне. Цікава, што кожнага дня ў розных фільтрацыйных лягерох у дэталях узнаўляюцца адныя тыя самыя катавальныя мэтады, што таксама наводзіць на думку пра цэнтралізаванае паходжаньне катавальных тэхналёгіяў. Калі гэта так, дык можна ўявіць, што ў кожны "фільтар" былі спушчаныя зьверху засакрэчаныя тыпавыя інструкцыі ці, прынамсі, афіцэрскі кантынгент быў праінструктаваны экспэртамі з Цэнтру.

* * *

Сёньня чэчэнцаў у Чэчэніі зьнішчаюць адначасна больш чым у 20 фільтрацыйных лягерох, ня лічачы самаробных "палёвых фільтраў", каторыя мае практычна кожная вайсковая частка. Дадамо сюды яшчэ "фільтры" ў памежных з Чэчэніяй расейскіх рэгіёнах, плюс турмы па ўсёй тэтыторыі Расеі, куды таксама цяпер звозяць чэчэнцаў. Махавік генацыду запушчаны на ўсю поўніцу.

Аднак, калі пайменна пералічваюць расейскія фільтрацыйныя лягеры, заўсёды забываюцца на лягер пад назвай "Чэчэнія", бо ўся рэспубліка, паводле трапнага выразу Алены Боннар, ператвораная цяпер у агромністы канцэтрацыйны лягер. І, як у клясычным канцлягеры, тут пануе поўнае бяспраўе "вязьняў" пры поўнай уседазволенасьці "пэрсаналу". І , як у клясычным канцлягеры, вольна гуляе па рэспубліцы гвалт, зьдзекі, катаваньні, бязсудовыя забойствы... Вось урыўкі з стужкі навінаў ГІА "Чэчэнпрэс", якое атрымоўвае апэратыўную інфармацыю літаральна зь мейсца падзеяў:

«...ему выбили зубы, сломали ребра и правую ногу, пробили черепную коробку... На теле были следы пытки электрическим током...»

«...в водохранилище найдены голова мужчины без глаз и женский скальп. Предположительно, останки принадлежат жителям Новых Атагов, мужу и жене Алиевым...»

«...Абдусаламов Билал - 1962 г. р., забит насмерть прикладами...

...Дудаев Ибрагим - 1975 г. р., выколоты глаза, на теле следы от прижиганий окурками и других пыток... ...Руслан Оздамиров, не выдержав истязаний, кричал: «Убейте меня!..»

«...Расстреливают тут же без всякого... ...расследования... ... в некоторых случаях прямо на глазах детей...»

«...Уже давно идёт охота на тех, кого амнистировали...»

«...Он нашел предплечье своего сына с кусками от рубахи, потом ногу без ступни и часть плеча... «Аллах дал мне знак, я теперь могу похоронить его», - говорил он...

«...В районе «Племстанции» - фильтрационный пункт... ...Задержанных пытают током, ставя их при этом на осколки битого стекла...»

«...на всех телах следы истязаний: вырваны глаза, отрезаны уши и носы. Многих пытали паяльными лампами - на телах глубокие ожоги. Некоторые были взорваны: их тела разорваны на куски...»

«...их пытали током, паяльными лампами. С живых еще людей сдирали кожу... У Темирсултанова Адама Аслановича, 1976 г. р., на спине стеклом были сделаны надрезы, в них насыпали порох и затем подожгли. С позвоночника другого убитого полностью снята кожа...»

«...соседи потушили пожар и вытащили из дома четыре обуглившиеся трупа.

Все четверо были связаны между собой проволокой и взорваны... Затем сожжены...»

* * *

Паводле многіх назіраньняў, расейскія ваенныя перадусім (верагодна, з Крамля была спушчаная адпаведная інструкцыя) забіваюць адукаваных, фізычна здаровых і прыемнай зьнешнасьці чэчэнцаў. У жывых, - згодна выказваньня адной сельскай жыхаркі, - пакідаюць касых, крывых і дэбільных". Вядома, што гітлераўцы, імкнучыся пагоршыць генафонд таго ці іншага нішчанага імі народу, таксама забівалі ў першы чарод лепшых ягоных прадстаўнікоў.

* * *

Давайце спынім наш агляд і прызадумаемся. Чалавецтва-бо суцэльна хворае! Гулаг і Халакост, 11 верасьня й цяпер Чэчэнія, - гэта-ж зусім не выпадковыя зьявы. Яны, як ні дзіка гэта гучыць, заканамерныя для чалавечай прыроды. Інакш ім проста не было-б мейсца ў нашым жыцьці. Яны ўласьцівыя для таго зваротнага д'ябальскага боку чалавечай натуры, якая стаіць за ўсімі праявамі ў нашым жыцьці хлусьні, жорсткасьці, гвалту, усяго цёмнага, змрочнага, жахлівага, несумяшчальнага са спачуваньнем, усяго таго, што мы называем словам "фашызм". Ужо даўно зразумела: калі гэтаму цёмнаму боку чалавечай сутнасьці даць волю, сусьветная катастрофа непазьбежная.

Фашызм, каторы дагэтуль атрымлівае над чалавецтвам перамогу за перамогай, саступіць толькі тады, калі ў сьвеце пераважыць новае палітычнае мысьленьне, якое супярэчыць д'ябальскаму боку чалавечай сутнасьці, а менавіта: калі галоўным прыярытэтам для плянэты Зямля зробяцца правы чалавека; калі палітычныя прыярытэты будуць аддадзеныя (як гэта ні напышліва гучыць) ня вузкім інтарэсам дзяржаваў, а інтарэсам чалавецтва ў плянэтарным маштабе; калі лідэры дзяржаваў, у тым ліку й г. зв. "дэмакратычных", адмовяцца ад двайных стандартаў і шчыра будуць шукаць праявы фашызму, у тым ліку і ў сваіх собскіх дзеяньнях (або, як гэта сёньня адбываецца ў Чэчэніі, наадварот, - у злачынным бязьдзеяньні).

Сёньня Чэчэнія, і гэта трэба, нарэшце, зразумець, ёсьць сусьветная трагедыя. Гэта – лякмусавая паперка, якая павінная прадэманстраваць, у першы чарод нам самім, ці маем мы права называць сябе людзьмі. Гэта ёсьць праверка на чалавечнасьць: зможам мы адстаяць сваю будучыню ці цёмны бок нашай прыроды пераможа й лідэры дзяржаваў будуць і надалей безсаромна глядзець на генацыд цэлага народу, падпісваючы тым самым (усё-бо вельмі ўзаемазьвязана!) усяму чалавецтву сьмяротны вырак...

* * *

Пішу гэтыя радкі, а ўвушшу стаіць: "Хопіць пра Чэчэнію! Абрыдлела! Можна, нарэшце, пра штонебудзь іншае?!"



...На вельмі сьлізкі шлях стала беларускае кіраўніцтва, абраўшы "паўднёвы варыянт" у зьнешняй палітыцы. Падпісаўшы дамову пра калектыўную бясьпеку з Расеяй, Казахстанам, Кіргізіяй, Таджыкістанам і Арменіяй (на Вялікдзень!), Беларусь, такім чынам, сваімі-ж рукамі выключыла сябе з эўрапэйскага грамадзтва, стварыўшы аналяг "другога полюсу сьвету" ў працівавагу НАТА. Дык хто нам ўсё-ж бліжэйшы – эўрапэйскія гістарычныя суседзі ці напаўдыктатары расейскага "падбрушша"? Ня дай Бог, разгарыцца тлеючы "паўднёвы пажар" вечных канфліктаў – і што тады нашым хлопцам зноў давядзецца ваяваць за абсалютна чужыя інтарэсы? Ці ня зробіцца гэтае другім Аўганам?.. Лепшая гарантыя міру ў кожнай краіне – гэта разумная, узважаная палітыка ейнага кіраўніцтва. А апошнім часам у Беларусі вельмі шмат увагі зварочваецца на ваенную тэматыку: узбраеньням, боегатоўнасьці арміі, гандлю зброяй, вайсковым вучэньням. Ключавая фраза мінскіх уладаў: "Трэба трымаць порах сухім!" Супраць каго трымаць? "Наш сябра" Садам таксама моцна спадзяваўся на сваю армію – і што з гэтага выйшла?

**Максім Долін**, *Информ-прогулка" № 20*

Юры Весялкоўскі

# Хто каго вучыў?

У вялікай сям'і славянскіх народаў беларускі народ розьніцца ад іншых народаў сваёю моваю. Мова — самы першы набытак любой этнічнай супольнасьці людзей. Славянскія мовы належаць да шматлікай сям'і індаэўрапэйскіх моваў. А, наогул, дасьледчыкі налічваюць на зямлі каля дзьвюх тысячаў моваў, але іх напэўна было больш. Некаторыя зь індаэўрапэйскіх моваў загінулі безпаваротна й зь імі загінула этнічнае паходжаньне народу. Да сёньняшняга часу захаваліся славянскія мовы, якія ў свойчас мелі тварыць адну агульную мову. З часам, калі на эўрапэйскім кантынэньце пачалі пашырацца славяне, іхныя сувязі пачалі слабець, што адбілася на адзінстве славянскай мовы ды прывяло да пэўнай зьмены.

Калі землі Кіеўскай Русі й іншых сумежных зь ёю княстваў апынуліся ў XIII ст. у залежнасьці ад татара-манголаў, яны страцілі магчымасьць разьвіцьця сваіх моваў і страцілі шмат сваіх стараславянскіх асаблівасьцяў, засвойваючы татара-мангольскія, угра-фінскія ды іншыя словы. Беларусь-жа ў той час і пазьней не была пад татара-мангольскай, ўграфінскай ці іншай залежнасьцю і таму ня мела чужога ўплыву на разьвіцьцё свае мовы. У выніку гэтага працэсу, сярод усходніх славянаў надыйшоў ня толькі моўны, але й нацыянальны падзел на беларусаў, украінцаў і расейцаў.

Ёсьць многа навуковых сьведчаньняў, якія гавораць, што беларуская мова зьяўляецца адной з найбольш чыстых славянскіх моваў, найбольш блізкай да праславянскай крыніцы. Заўважыў гэты вядомы польскі этнограф Міхал Федароўскі, які прысьвяціў 30 гадоў свайго жыцьця досьледам беларускага фальклёру ў мінулым стагодзьдзі. Беларускі фальклёр гэта яго мова беларускага народу, часта нацыянальнага аблічча, дзе ён пераказваў свой гераізм, сваю радасьць й смутак, сваю надзею й роспач. Фальклёр зьяўляецца гістарычным паказьнікам эпохі.

З палітычных прычынаў было прынята пісаць у царскай ды савецкай літаратуры й гісторыі, што продкі беларусаў, украінцаў і рускіх жылі адным жыцьцём, карысталіся адной мовай і што тварылі быццам адзіную Рускую дзяржаву. Для прыкладу прывядзём зацемку: „У гэтай дзяржаве (Кіеўская Русь), якая ў канцы X і ў XI ст. ст. дасягнула вышэйшага росквіту й магутнасьці, этнічныя продкі рускага, украінскага і беларускага народаў жылі адным агульным грамадзка-палітычным жыцьцём, мелі аднолькавую мову, літаратуру і культуру". („Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры" Мінск, 1956 г. ст.5).

Калі гаварыць пра дакладнасьць, дык гэтыя „этнічныя продкі рускіх, украінцаў і беларусаў" не жылі „агульным грамадзка-палітычным жыцьцём". Іхныя князі вялі частыя й заўзятыя войны за сваю дзяржаўную незалежнасьць, помсьцілі адзін аднаму, князь мардаваў князя, каб толькі захаваць сваё княства незалежным ад Кіева. Так у 1169 г. Андрэй Багалюбскі, князь Растова-Суздальскі, штурмам узяў Кіеў, абрабаваў яго, спаліў, разагнаў многа насельніцтва, а рэшту зрабіў нявольнікамі. Быў гэта пачатак распаду Кіеўскай Русі, і ніхто ня мог яго стрымаць. Гэта ёсьць яскравы прыклад вышэй памянёнага „агульнага грамадзка-палітычнага жыцьця" Кіеўскай Русі ды ейных „рускіх" удзельных князёў, пра што так хараша пішацца ў „Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры" савецкага часу. Ад гэтага памятнага 1169 г. Кіеў ніколі ўжо не акрыяў, а наезд татара-манголаў у першай палавіне XIII ст. канчаткова ўсьмяроціў Кіеўскую Русь, а зь Кіева зрабіў глухі пасёлак.

Клярксон у сваёй кнізе на ангельскай мове „Гісторыя Расеі ад XI стагодзьдзя" на ст. 33 піша, што ў кіеўскі пэрыяд не было Рускай дзяржавы. І яе не магло быць. А што да яе пісьменнасьці, дык яна вялася на стараславянскай мове, а не на той, якой карысталіся плямёны Кіеўскай Русі. Тагачасныя аўтары былі пераважна манахі ў манастырох і яны, калі што пісалі сьвецкага, дык карысталіся царкоўнаславянскім пісьмом.

Маскоўскае княства пачало тварыцца даволі позна, недзе ў X ст., і не на славянскай тэрыторыі, а на тэрыторыі ўгра-фінскіх плямёнаў. Першы ўспамін пра Маскву спатыкаем пад 1147 г. і ейнае паходжаньне ня ёсьць славянскае, а чудзкае (угра-фінскае), што ў перакладзе азначае „мяккая вада". І, як падае праф. Мікалай Фр. Хіроўскі: „Паводле большасьці ўсходнеэўрапэйскіх, нерасейскіх гісторыкаў, Кіеўская эра ў сапраўднасьці не належыць да гісторыі Расеі". („Эн Інтрадакшын ту гісторы" ЗША, 1967 г. ст. 19).

А што да „агульнай мовы", дык Кіеўская Русь яе ня мела, было толькі агульнаславянскае моўная падабенства. З прыняцьцём хрысьціянства Уладзімірам Вялікім у X ст., у Кіеў прыйшла царкоўна-славянская літаратура, якая пашыралася на Русі, але была яна ў балгарскім дыялекце. Крыху раней (IX ст.) славянскі альфабэт улажылі сьвятыя Кірыл і Мяфодзі, якія паходзілі з горада Салёнікі (Грэцыя). Яны перакладалі грэцкія царкоўныя кнігі на славянскую мову, карыстаючыся дыялектам, які яны добра зналі, бо гадаваліся сярод славянаў — беларускіх дрыгавічоў, якіх там называлі „другавітамі". Мова гэтых рэлігійных кнігаў мела незразумелыя словы для жыхароў Кіеўскай Русі, і яны тлумачыліся перакладчыкамі „на бацех", інакш кажучы на палях.

У той старажытны час мы маем на Беларусі такіх рэлігійна-культурных асьветнікаў як Ефрасіньня Полацкая. Памерла яна ў 1173 г. і па яе сьмерці было напісана на царкоўна-славянскай мове „Жыцьцё Еўфрасіньні Полацкай" як асьветніцы, якая бачыла сваё пакліканьне ў тым, каб служыць умацаваньню хрысьціянства ў Полацкай зямлі і ўзьняць культурна-асьветніцкі й маральны ўзровень сваіх суайчыньнікаў. Ефрасіньня вышэй „за все имение" ставіла кнігі, „ими же утешает ... душа и сердце веселится". Яна стварала свае арыгінальныя творы й рабіла пераклады з грэцкай мовы.

Выдатнымі й адукаванымі беларускімі асьветнікамі сярэднявечча былі Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч і Аўраам Смаленскі. Яны былі першымі красамоўцамі хрысьціянскага слова й пяра ня толькі ў Беларусі, але й сярод усходніх славянаў. У гэтым часе на тэрыторыі Беларусі паўсталі: полацкае, лаўрышаўскае, мсьціслаўскае і друцкае „Евангельлі". „Аршанскае Евангельле" XIV ст. зьмяшчае ў сабе лексычныя й фанэтычныя асаблівасьці беларускай мовы. Усходнія славянскія княствы: Полацкае, Тураўскае, Ноўгарадзкае, Кіеўскае ды іншыя, — мелі свае гаворкі, якія розьніліся ня толькі ад царкоўна-славянскае мовы, але мелі сваю спэцыфіку, якая вызначыла з часам беларускую, украінскую й расейскую мовы. Дарэчы зацытаваць выказваньні беларускага вучонага Фёдара Янкоўскага: „Засяленьне славянамі велізарных абшараў натуральна прывяло да пасабленьня сувязяў паміж славянскімі групамі, а нарэшце й да распаду агульнаславянскага моўнага адзінства. Не пазьней, як у VI ст. надыйшоў канец агульнаславянскай эпохі, пачалося выдзяленьне славянскіх моўных групаў, асобных славянскіх моваў". („Роднае Слова". Мінск, 1972 г., ст.12). Падобнае гаворыць і прафэсар Мікалай Фр. Хіроўскі, заяўляючы, што нацыянальныя адрозьненьні беларусаў утварыліся ўжо ў VII — XIII ст. ст. У XI ст. у кнігах-перакладах, пісаных беларусамі царкоўна-славянскай мовай, выразна прабіваюцца беларускамоўныя рысы. У той час Кіеўская Русь ня мела арыгінальных твораў. Ейныя жыхары былі яшчэ малапісьменныя, трэба было ім многа вучыцца, каб пачаць пісаць свае арыгінальныя аповесьці або іншыя мастацкія творы. Пісаліся толькі летапісы, паломніцкая літаратура ды сьвецкія пераклады.



*Аршанскае рукапісна Евангельле XIV ст.*

Недзе ў сярэдзіне XIII ст., у сувязі з пашырэньнем пісьменнасьці, склаўся першы пэрыяд гісторыі ўласнай беларускай літаратуры. Акадэмік Яўхім Карскі лічыць, што важнейшыя асаблівасьці беларускай мовы ў той ці іншай меры існавалі ўжо ў XIII ст. і з гэтага XIII ст. скалаліся характэрныя рысы беларускай мовы, якія адрозьнівалі яе ад моваў іншых славянскіх народнасьцяў. І напрацягу наступных стагодзьдзяў спэцыфічныя рысы беларускай мовы замацаваліся й выразна выявіліся ў афіцыйных дакумантах ды іншых помніках літаратуры й пісьменнасьці. Была гэта **старабеларуская мова**. Акадэмік Карскі прысьвяціў амаль усё сваё навуковае жыцьцё вывучэньню беларускай мовы й культуры. Яго грунтоўная праца „Беларусы" даказала, што беларуская мова — арыгінальная, самастойная славянская мова, з сваёй гісторыяй, а беларускі народ — самастойны славянскі народ.

Усё-ж трэба аб'ектыўна прызнаць, што беларукая мова мае шмат супольнага зь некаторымі славянскімі мовамі, асабліва з суседнімі. Але яна розьніцца ад іх сваім характарам выгавару й гукавым складам. Яна мае свае фанэтычныя рысы, як „аканьне" ды „яканьне", чаго не спатыкаем у іншых славянскіх мовах. А „дзеканьне" й „цеканьне", хоць і спатыкаецца ў мове палякаў, але мае іншы характар. Таксама на фармаваньне беларускай мовы мела ўплыў і літоўская. А, наогул, М. Т. Флорынскі у сваёй кніжцы на ангельскай мове „Расея" піша, што на разьвіцьцё расейскай літаратурнай мовы мелі ўплыў замежныя мовы: стара-царкоўна-славянская, грэцкая, іранская, стара-нармандзкая, гоцкая, турка-татарская ды угра-фінская. На ўкраінскую літаратурную мову мелі ўплыў мовы: польская, нямецкая, турка-татарская, турэцкая, лацінская й літоўская мовы. На беларускую літаратурную мову аказалі ўплыў мовы: польская, нямецкая, габрэйская, літоўская і ўкраінская мовы.

*Працяг будзе*

## Раецкія эмігравалі ў Аўстралію

пасьля Другой сусьветнай вайны й пасяліліся ў горадзе Пэрце, дзе прыпыніліся й іншыя беларусы. Яны стварылі там беларускі асяродак – Аб'еднаньне Беларусаў у Заходняй Аўстраліі. Высілкамі сяброў паставілі невялікі дамок, каб зьбірацца на сходы ды плянаваць і ажыцьцяўляць беларускія мерапрыемствы. Дамогшыся радыёперадачаў, нягледзячы на грамадзкую штодзёншчыну, Міхась Раецкі ад самага пачатку кіруе беларускімі радыёперадачамі, якія сам і укладае. Ягоны сын, таксама Міхась, займаючы кіруючыя становішчы, палегчыў бацькавы грамадзкія клопаты. Апошне, каб забясьпечыць цягласьць радыёперадачаў, Міхась Раецкі пачаў іх сам аплочваць. Адкуль-жа бярэцца гэткія жаданьне й стойкасьць, такая адданасьць у служэньні беларускай справе? Гэтае пытаньне Міхась паясьняе крыху сам: "Раецкія паходзяць зь вельмі даўняга ваяцкага племені, якое было на Балканах, называлася Літвой і мела сваё Літоўскае княства. Пасьля яно перасялілася на землі цяперашняе Беларусі, а, дакладней, на гарадзенскія й навагародзкія абшары. Немцы называлі літоўцаў "лютамі" ("Люттэн"). Праўдападобна, што й пашла адгэтуль назва "Літва". Пра гэтае племя ўзгадвае й выдатны чэскі гісторык Шафарык. Раецкія служылі ў тадышняй Літве ў войску, а пасьля ў польскіх і, нехта зь іх, у расейскіх войсках. У 1812 г. недалёкі сваяк Міхася Раецкага узначальваў кавалерыйскія злучэньні ад Літоўскага княства ў паходзе Напальёна на Маскву, праз што пасьля паражкі французаў у Раецкіх была забраная ўся маёмасьць. Толькі адзінкі з Раецкіх перажылі пазьнейшае камуністычнае ліха". Як іхны нашчадак, Міхась Раецкі нястомна дзеіць у сваім часе. Перад выездам у Аўстралію Міхась дзейнічаў у Саюзе Беларусаў у Бэльгіі. Калісьці Раецкія пісаліся як Раеўскія, – слова, ад якога, магчыма, паходзіць назоў вёскі Раеўшчына ў Стаўпецкім раёне.

**С. Сакалёнак**

*("Цыркуляр" 61-шы)*

*Аляксей Каўка*

# Па жывых хаўтуры ня правяць...

Хам, адзін з трох сыноў Ноя, неяк угледзеў на сьпячым, з падпітку, бацьку непрыкрыты сорам і памкнуўся быў справакаваць братоў да пацяшэньня зь неабачлівасьці старога. Але тыя, Сім і Яфет, не спакусіліся блюзьнерствам, далікатна ахінуўшы агаленьне на бацькавым целе. Згаданую тут старазапаветную калізію ў свойчас пракамэнтаваў А. П. Чэхаў: "Хам заметил только, что его отец пьяница, и совершенно упустил из виду, что он построил ковчег и спас мир». Штораз часьцей згадваю гэты біблейскі інцэдэнт, асабліва чэхаўскую рэмарку, калі даводзіцца мець справу з наскокамі на Беларусь і беларушчыну – мову, культуру, нацыянальную ідэю, адраджэнскую інтэлігенцыю – з боку некаторых палітыкаў, публіцыстаў, інтэлектуалаў. Народ наш, можа, ня з самых дасканалых і ня надта імунітэтны перад рознымі спакусамі, алеж і міжвольныя слабасьці, пралікі перад чужымі расхінаць ня кідаецца. Тым ня менш, "хамскі" сындром, як бач, даволі часта спрацоўвае ў абыходжаньні "мондрых мира сего" ў дачыненьні да свайго народу, ягонай шматвяковай гісторыі, духоўнай спадчыны, да ейных носьбітаў і абаронцаў.

Нашае самапрыніжальнае нэкрафільства іншым разам ня супраць (пад "інтэграцыйную" нагоду) падхапіць і шырокавяшчальныя расейскія СМІ. Ня так даўно не абы хто, а Сама Найсьвяцейшая Карона з колішняга "Северо-Западного края" (маецца на ўвазе А. Лукашэнка – *заўв. рэд.*) шчыравала з маскоўскай тэлестудыі да расейскага й, натуральна, беларускага гледача, маўляў, беларуская культура, не раўнуючы рускай, бедная культура... (Калісьці гэтыя самыя вусны агаломшылі суродзічаў ня менш забойчым вэрдыктам: "Беларускі язык – бедны язык, на нём невазможна выразіць высокія мыслі"). Рускі мой калега, зьніякавелы ад убачанага-пачутага, не стрымаўся: "Что за пошехонская дремучесть! Надо же так не уважать ни себя, ни свой народ!"

Яшчэ прыклад. Адна дужа незалежная расейская газэта, пэўна не спадзеючыся пасягаць на кляйноты суседзяў, надрукавала развагі аднаго вучонага-юрыста пад загалоўкам як-жа вымоўным "ТУТЭЙШЫЯ. Беларусь. "Западные губернии Росси" или "Kresy wschodnie» ("Независимая газета", 25 октября 1999 г.). З сэнтэнцыяў гэтага вучонага-юрыста сярод іншага даznaёмся пра нявыяўленасьць, хімерычнасьць нашай беларускай нацыянальнай ідэі: "... а возможна ли белорусская идея вообще?" Наступна – пра жалю вартую наканаванасьць беларускага лёсу: "Белорусы – носители не собственной уникальной идентичности, а чужой – московской или европейской. По этой причине наиболее оптимальной программой для Белоруссии, видимо, может считаться «неозападнорусизм»". "Вольныя экзэрсісы" маскоўскага аўтара адразу-ж падхапіў беларускі часопіс, нават без агаворкі, што гэта пераклад з расейскай мовы (мабыць, праз спакусу выдаць іншаземны тэкст за свой уласны).

Вяроўку хаўтурнага звону торгнуў нядаўна й штотыднёвік "Голас Радзімы" (11 сакавіка 2003 г.): "У беларусаў няма ідэі, у беларусаў ёсьць шлях". Далей-болей: "У нас няма гісторыі, няма культуры, няма мовы, ды і самі беларусы... ці то яны ёсць, ці то іх няма – гэта няпэўна пытанне". Нішто сабе шчырасьць на спажытак масавага тутэйшага чалавека. Я ня супраць дубляваньня "пункту гледжаньня" вядомага крытыка растыражаванага на старонках шматтысячнай "Советской Белоруссии", аднакжа наклад "Голасу Радзімы куды сьціплейшы, і прызначаны штотыднёвік "для суайчыньнікаў за межамі Беларусі".

Хаця па-рознаму можна разглядаць, аналізаваць нашае грэшнае ды супярэчлівае жыцьцё, але ягоную маркоту часам разганяе несьціханым розгаласам "Жыве Беларусь!" Можа ў гэтым нескароным "Жыве!" – спаконвечным выбуху з-пад агністага сэрца Купалы – і выкрышталізаваўся генэтычны код і інтэлектуальны альгарытм беларускай ідэі, як сьведчыць гісторыя, трывучы, незьнішчальны. Пра гэтую трывучасьць сёньня маглі-б нямала распавесьці (часам і распавядаюць) рэпартажы зь міліцэйскіх пастарункаў, з-за кратаў на Акрэсьціна, дзе каторы год запар не перастаюць уціхамірваць апантаных той самай нацыянальнай ідэяй. Урэшце, і самі Ластоўскі, Цьвікевіч, Тарашкевіч, згаданыя ў вышэйпамянёным артыкуле "Голасу Радзімы", сваімі творамі й трагічным зыходам куды ўжо больш пераканаўча давялі неўміручасьць нашае мовы, гісторыі, культуры...

Дарэчы, не цьмянее сёньня амаль хрэстаматыйнае эсэ Ігната Абдзіраловіча (І. Канчэўскага) "Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. Вільня, 1922". Гэтая праца відавочна народжаная з набалелае праблемы выказаць суродзічам сутнасьць іхнага пакліканьня ў цывілізацыйным працэсе: не згубіцца на драматычных ростанях Усходу-Захаду, сцьвердзіць сябе, самавыявіць як самабытную супольнасьць, – паважны гаспадар у сваёй хаце, а не жабрак-папіхайла чужацкіх прыхамацяў. Чым не Ідэя на Адвечным шляху? І што гэта за шлях без ідэі-сьветапогляду, калі па ім, прабачце, таўпечыцца ня гурт збродных авечак, а крочыць прагная да нацыянальнага ўсьведамленьня грамада? Так што стрыжнявыя паняцьці філёзафа "шлях" і "беларускі сьветапогляд" зьлітыя ў адно цэлае, і мы, дзеля карэктнасьці, не павінныя разьядноўваць іх.

Зноў-жа, згадваю, як на старонках апазыцыйнага друку адзін рашучы публіцыст, у палемічным запале, кінуў раздражнёны выклік запаветнаму выслоўю паэта-прарока: "А хто там ідзе? Холуй!" Навошта-ж гэтак задзірыста? Нават калі й халуі (халопы, перакіньчыкі, адрачэнцы, янычары) тоўпяцца пад нагамі грамадзкага шэсьця, пнуцца ім верхаводзіць? Не яны, у рэшце рэшт, вызначаюць гістарычную сутнасьць беларускай хады, зрухі Вялікага Часу. Няўжо-ж праз пацукоў падпальваць стадолу?

Калі мы насамрэч гэткія нямоглыя, нікчэмныя, дарэшты асірочаныя з уласнай гісторыі, культуры, нацыянальнай годнасьці, дык чаму-б нас не адарыць і тым, і іншым. І – "адорваюць"! Вось ужо прапаноўваюць нам, нехлямяжным сіротам, аднаго "дабрадзея" ў якасьці "белорусского мыслителя"... Івана Лукіянавіча Саламевіча ("Беларуская думка". № 7, 2002 г.), які ў гісторыі Беларусі праслявіўся хіба што цынічным пляўком у бок зямлі й народу, якія пусьцілі яго ў сьвет. Варта раскрыць дужкі ягонай "беларускасьці" й "мысьлярства": "Я... стопроцентный белорус, очень рад, что меня учили русскому языку, а не белорусской мове, что Пушкина не заменяли Янкой Купалой и просторов империи – уездным патриотизмом с сеймом в Вильно или в Минске" (Солоневич И. Россия в концлагере. Т. 1. София, 1936, ст. 224).

Цяперашнія пасьлядоўнікі "стопроцентного белоруса" таксама дзівяць-пацяшаюць сьвет сваімі "шчырасьцямі", спрабуючы выдаць за найноўшую моду спарахнелае рызьзё з гістарычнага сьметніку: "белорусы – те же русские, только со знаком качества", "русский язык – это наш родной язык", "сегодня в Белоруссии русскому человеку (русыфікатару? – заўв. А. К.) живётся лучше, чем в России" й г. д. У чым нашыя дамарошчаныя "стопроцентные" абскочылі сваіх папярэднікаў "западнорусов", дык гэта, пэўна, у спрыце "качаць" дэвіdэнты з халопскага сэрвілізму перад Старшым Братам. Ён, здаецца, належным чынам уcпрымае й стымулюю гэтае сэрвільнае віхляйства: "Даже само слово "белорусы" как бы означает "белые русские" ("Литературная газета". 5 ноября 2002 г.). Лягічна запытацца: калі мы гэткія "белыя" ды чыстыя рускія, навошта нам шукаць лепшай долі не інакш як у супольным доме, "в едином государстве" зь вялікарускімі братамі? Няўжо нельга крэўнічаць, сябраваць, жывучы самастойна, паасобнымі дамамі, а не ў сьмярдзючай, сварлівай камуналцы?

Так што другая, іншаземная, Найсьвятлейшая Карона (У. Пуцін – *заўв. рэд.*) няблага ведала, што робіць, калі раптам прапанавала незалежна-суверэннай Беларусі "губернскі" рай у сваёй бяскрайняй імпэрыі. Яна, Карона, трэба думаць, прыслухоўваецца, спраўна "сечёт" парады сваіх экспэртаў, як і вольна-адвольныя развагі інтэлектуалаў.

Сёньня шмат каму – "і чужынцам і юдам сваім" (выраз М. Танка) – дужа няймецца на зглумленых скрыжалях Беларусі замест іменаў Каліноўскага, братоў Луцкевічаў, высеч прозьвішчы Мураўёва-вешальніка, манархіста Саланевіча. Што зробіш, такі ўжо ў нас "смутны час", час бруду й падману. І нам трэба мужна ператрываць, адолець гразь на Беларускім шляху, калі тая гразь "запэцкала, пэцкае нашу спадчыну, нашу культуру, нашу гісторыю, нашу мову: яна запэцкала й пэцкае само найменьне беларуса, сэмантыка якога якраз і зьмяшчае ў сабе тыя колеры, што выяўленыя ў нашым, таксама запэцканым ёю дзяржаўным сьцягу" (Алесь Разанаў). Але смута праміне. Гразь усохне, скрышыцца. Сонца шчадрэй пральецца ў нашае ваконца. "Будзем сеяць, Беларусы!" – лекаваў нашыя сэрцы Паэт падчас роспачы ў чорную ноч. Верма й сёньня ў плённасьць сяўбы. Зь непагаснай Ідэяй – "Жыве!"

## Дзядзька, дай закурыць!

Жыцьцёвыя абставіны, якія змушаюць часта езьдзіць на самых танных сёньня прыгарадных цягніках і электрычках, даюць для журналістаў вельмі вялікую глебу для разважаньняў над сёньняшнім нашым жыцьцём...

У тамбуры апошняга прыгараднага вагону падыходзіць хлапчук гадоў гэтак 13-14: "Дзядзька, дай закурыць!". Прабачце, пэдагогі, даў. І не таму, што не разумею – гэта дрэнна, Усё роўна ён закурыць. Знойдуцца людзі. Чалавек ужо практычна сфармаваўся. Яму патрэбны тытунь. Магчыма, хутка спатрэбяцца й больш моцныя напаўняльнікі ягонага маладога жыцьця.

А вось на размову Сяргея (так звалі падлетка) я ўсё-такі выцягнуў. Аказваецца, ён са школы-інтэрнату ў Паставах, едзе на канікулы да бабулі ў Воршу, пра бацькоў – ані слова. Ягоная справа. Апошнім часам вельмі папулярная ў прэсе – "гуманітарная дапамога", якую аказвае Захад нашым сіротам і сіротам пры жывых бацьках, якія гэтых правоў пазбаўленыя...

Я адразу зьвярнуў увагу на тое, што апрануты хлопец так, як і належыць сёньня быць апранутаму падлетку: у сучасныя мадэлі безь ніякіх там фуфаечак і ботаў. Гуманітарная дапамога. Кранула яна й Сяргея. Вось толькі яму й ягоным аднагодкам, якім мінула ўжо 12-ць, "ня сьвеціць" ужо паездка ў тую самую Італію. Тым больш пэрспэктыва ўсынаўленьня з боку новых італьянскіх бацькоў. Такіх там проста не бяруць, такіх проста не запрашаюць. Староватыя, сапсаваныя... А цяпер уявіце, як гэтыя "староватыя" й "сапсаваныя" сустракаюць меншых і шчасьлівейшых сваіх аднашкольнікаў па інтэрнаце пасьля іхнага прыбыцьця з захапляльных і шматабяцальных паездак у Італію. Вы яшчэ не зразумелі? Ва ўсіх такіх школах пануе "дзедаўшчына", якая, магчыма, і ня сьнілася армейскім падразьдзяленьням. Тыя, хто не пабываў і ўжо ня зможа пабываць у Італіі ды іншых краінах Эўропы, якія праяўляюць да нашых абяздоленых дзяцей павышаную зацікаўленасьць, – вельмі варожа й нават прыгнятальна ставяцца да тых, хто аблашчаны гэтаю ўвагаю. Дзяліцеся! І дзеляцца. І марацьць толькі пра адно –хутчэй-бы зьехаць за мяжу... Існуючая палітыка разбэшвае дзяцей на самым корані іхнага йснаваньня.

**Аляксандар Собаль**
*("Вольнае Глыбокае")*

## Выхаванец Бялыніцкай дапаможнай школы-інтэрнату

для дзяцей сіротаў, 10-гадовы Анатоль Рагайн, стаў жыхаром штату Паўночная Каралiна, ЗША. Апошнія тры гады Анатоль на летнія канікулы выяжджаў у Амерыку на запрашэньне сям'і Коўтсаў, якая і ўсынавіла хлопчыка.

**Базыль Ліцьвіновіч**
*("Тыдзень з Магілёскай вобласьцю")*

## Адыйшло нашае сьвята

Дзень Волі, 85-годзьдзе БНР (слова "ўгодкі" я ўжываю толькі ў адносінах чарговых гадавінаў нябошчыкаў). Сапраўды, каб не было БНР, дык не была-б створаная й ССРБ (пазьней – БССР). Межы БНР ніхто не адмяняў (воля дэлегатаў 1-га Ўсебеларускага зьезду). Беларуская нацыя яшчэ фармуецца, таму й маем мы вельмі шмат цяжкасьцяў. Добра заўважыў Сяргей Дубавец, што замест прасьцейшага прынцыпу "Любі сваё!", дзяржаўная ідэалёгія прапаведуе зусім адваротнае. Беларусь, мусіць, адзіная краіна ў Эўропе, которая адмовілася ад прыгажосьці свае мовы й нацыянальных сымбаляў. Назавіце мне яшчэ краіну, у якой ад народу адрэзаныя многія нацыянальныя цэнтры? Надарылася адзіная зараз магчымасьць – без крыві, бяз войнаў – збудаваць сваю дзяржаву, гаспадарства, і мы гэтую магчымасьць губляем, губляем, губляем.

**Пятро Амбрасовіч,**
*Санкт-Пецярбург*

# “Тыдзень з Магілёўскай вобласьцю”



■ У красавіку 2004 г. ангельская тэлевізія ВВС мае намер пачаць трансьляцыю дакумантальнага сэрыялу «Аўшвіц». Адна з сэрыяў будзе прысьвечаная халакосту ў Беларусі – зьнішчэньню ў газавай камеры 800 пацыентаў магілёўскай вар'ятні. Магілёў быў першым мейсцам, дзе было апрабаванае масавае зьнішчэньне людзей газам. З мэтаю ўдакладненьня зьвестак Магілёў наведаў рэжысэр-дакументаліст, дырэктар архіву Халакосту ў Вільні Бержыніс Саўлюс. Тутака яму пашанцавала сустрэцца з сьведкамі тых жудасных падзеяў. Яны-ж паказалі рэжысэру корпус, дзе месьціліся хворыя, і скляпеньні, дзе ім давялося загінуць.

■ Блізу 50-ці асобаў сабралася на памінальную малітву (кадзіш), арганізаваную Магілёўскай габрэйскай абшчынай, прысьвечаную памяці ахвяраў халакосту на мясцовых Габрэйскіх могілках. Паводле архіўных зьвестак, за часамі Другой сусьветнае вайны ў Магілёве было зьнішчана 2.200, а ў навакольлі блізу 7.500 габрэяў. Як кажа каардынатарка праграмы “Урокі халакосту” Іда Шэндэровіч, менавіта ў Магілёве ўпершыню была выкарыстаная гэтак званая машына-душагубка. Па вайне на габрэйскіх могілках быў усталяваны помнік у памяць аб ахвярах. Сродкі на помнік магілёўскія габрэі зьбіралі талакой.

■ Няўдалай засталася спроба ўдзелу чальцоў магілёўскай арганізацыі АГП у першамайскім мітынгу пад партыйнымі сьцягамі. На падыходзе да мейсца правядзеньня мітынгу й пасьля разгортваньня партыйных сьцягоў групу партыйцаў ад асноўнай частцы дэманстрантаў тут-жа ачапілі й адціснулі асобы ў цывільным. Падставаю для падобных дзеяньняў спачатку сталіся сьцягі. Наступным матывам для адмовы прайсьці на плошчу Леніна сталася адсутнасьць афіцыйнага дазволу на калектыўны ўдзел у мітынгу. Урэшце й яна не спрацавала, аднак партыйцам не давялося наведацца на плошчу. Адзінае, што суцешыла іх, дык гэта неймаверны спрыт міліцыянтаў у атрыманьні ўлётак “У вас праблемы з дэмакратыяй? Мы ляцім да вас!”

■ Днямі ў Шклове пахавалі Новікава У.П., які працяглы час працаваў у Маскве і трагічна загінуў падчас пажару ў гатэльным комплексе “Алые паруса”. Цела нябошчыка прывезла з Масквы жонка. Фірма, у якой працаваў Новікаў, абмежавалася толькі паведамленьнем аб сьмерці, але адмовілася дапамагчы ў дастаўцы цела нябошчыка ў родны Шклоў. Новікаў пачаў наведаваць суседнюю краіну па збанкрутаваньні мясцовага ПМК-283, дзе працаваў прарабам. Шмат хто з Шклову практыкуе падобную форму папаўненьня ўласных ды сямейных бюджэтаў. Беспрацоўе ў горадзе завялікае, пэрспэктывы знайсьці працу ніякай. Імкненьне падзарабіць усё часьцей прыводзіць да трагічных выпадкаў, якіх за паўгода было дзесяць. У загінуўшага засталося двое дзетак.

**Алесь Асіпцоў**

■ Апошнім часам пачасьціліся выпадкі падману крычаўскіх рабочых, што працуюць на будоўлях Масквы. Абяцаных грошай ім ня плацяць, а незадаволеных зьбіваюць ды адбіраюць дакументы. Шматлікія ахвяры распавядаюць, што некалькі месяцаў працавалі па 10-14 гадзінаў у дзень без выходных і перапынкаў літаральна за кавалак хлеба. Звычайна за месяц такой, без перабольшаньня, катаргі наймальнік абяцае заплаціць па 200-400 дал. ЗША на чалавека. Аднак часцей за ўсё грошы не выплочваюцца, альбо выплочваюцца часткова. Такім чынам, прыбытковы ў мінулым будаўнічы бізнэс для крычаўцаў зараз абярнуўся бясплатнай непасільнай працай на разваротлівых расейскіх бізнэсмэнаў.

■ Згодна інфармацыі аддзелу статыстыкі Крычаўскага райвыканкама, за мінулы год у раёне сьмяротнасьць у 2,1 разы перавысіла нараджальнасьць (памерла 738 крычаўцаў, а нарадзілася 350). Асноўнымі прычынамі сьмерці зьяўляюцца хваробы сыстэмы кровазвароту (64,6%), а таксама няшчасныя выпадкі, атручаньні, траўмы. Не апошняе мейсца ў сумным рэйтынгу займаюць і самазабойствы – 3,5%. Адмоўнае сальда міграцыі афіцыйна складае 155 чалавек (621 чал. прыбыў, 776 выбыла).

■ На Крычаўскім чыгуначным вакзале пачала функцыянаваць першая ў горадзе платная прыбіральня. Індывідуальная прадпрымальніца з Гродна адрамантавала памяшканьне, усталявала якасную сантэхніку. Наведаньне прыбіральні каштуе 250 бел. руб.

■ Апошнім часам на крычаўскім гарадзкім рынку пачалі зьяўляцца крышнаіты, якія актыўна пераконваюць мясцовых жыхароў у перавагах веры ў Крышну ды настойліва прапануюць адпаведную літаратуру. З чым звязанае нечаканае зьяўленне прыхільнікаў экзатычнай рэлігіі ў Крычаве невядома.

■ Зрабілася вядомым месцазнаходжаньне аднаго з кампутараў, канфіскаваных у грамадзкай рэдакцыі незарэгістраванай крычаўскай газэты “Вольны горад” у ліпені 2001 г. Тады грамадзкія карэспандэнты газэты былі абвінавачаныя ў... захопе закладніка, а тэхніка канфіскаваная на карысьць дзяржавы. Амаль праз два гады высьветлілася, што кампутарам для вёрсткі карыстаюцца экспэрты-крыміналісты Крычаўскага РАУС.

**Андрэй Кузьмін**
*kontakt-centr@mogilev.unibel.by*

■ 23 красавіка ў эфір выйшаў апошні выпуск навінаў папулярнага ў Магілёве недзяржаўнага тэлеканалу «Другі тэлеканал». Такім чынам завяршылася гісторыя перасьледу вольнага канала вяшчаньня, распачатага Магілёўскім дзяржкантролем месяц таму. Дзяржкантроль у часе фінансавай праверкі канала (якая, дарэчы, супала з прэтэнзіямі Ўпраўленьня КДБ да страйкавага сюжэту з Магілёўскага мэталургічнага заводу) зацікавіўся адсутнасьцю ў канала санітарных сэртыфікатаў на тэхналягічнае абсталяваньне. Довады канала аб тым, што ўсё абсталяваньне (замежнае ў асноўным) увезенае ў краіну і набытае цалкам законна, на кантралёраў не зрабілі ніякага ўражаньня. Апэратыўна адбылося паседжаньне гаспадарчага суду, пастановай якога абсталяваньне каналу, а гэта 28 адзінак спэцыяльнай тэхнікі, было канфіскаванае. За канал імкнуліся заступіцца абодва – абласны й гарадзкі – старшыні выканкамаў. На нейкі час справа канфіскацыі замарудзілася. Аднак неўзабаве зь Менску (!) дырэктар канала А. Астапаў атрымаў распараджэньне даставіць абсталяваньне ў сталіцу, у распараджэньне Дзяржкантролю. «Другому тэлеканалу» больш за 7 гадоў. Найбольш прывабнай ягонай прадукцыяй былі «Гарадзкія навіны», што выходзілі тройчы на тыдзень на беларускай мове. Шмат увагі журналісты каналу надавалі крытычным пытаньням камунальных службаў, а таксама – асьвятленьню праблемаў сацыяльнага жыцьця.

**Генадзь Суднік**

■ Магілёўскія прадпрыемствы й арганізацыі ў 1-ым квартале 2003 г. гандлявалі з 57 краінамі сьвету. Галоўнымі гандлёвымі партнёрамі была Расея (68,3% зьнешняга тавараабароту), Нямеччына (5,2%), Украіна (6,4%), Польшча (1,7%), Італія (1,2%), Кіпр (2,8%).

■ Побач зь вялізнымі запасамі цэментнай сыравіны (77% ад запасаў усяе рэспублікі) на тэрыторыі Магілёўскай вобл. знойдзеныя і ўжо выкарыстоўваюцца запасы нафты. Галоўная скарбніца сыравіны знаходзіцца ў Глускім раёне. У прыватнасьці, на разьведаных Барысаўскім і Драздоўскім радовішчах запасы нафты ацэньваюцца ў 350 тыс. тонаў. Сёньня на гэтых радовішчах ужо дзейнічае 9 сьвідравінаў. Штогод зь іх выкачваецца 23-25 тыс. тонаў высокавязкай нафты.

***«Вечерний Могилёв»***

■ Дзень Перамогі сябры Бабруйскай гарадзкой і раённай арганізацыі Партыі камуністаў Беларусі адзначылі паездкай да пахаваньняў салдатаў і афіцэраў на вайсковыя могілкі. Усклаўшы вянкі й кветкі, камуністы выказалі рашучы пратэст супраць рашэньня аблвыканкама пабудаваць у вёсцы Шчаткава могілкі нямецкім салдатам. На мейсцы запланаваных уладамі могілак камуністы ўбілі сымбалічны асінавы кол ды прымацавалі плякат “Не – пахаваньню фашысцкіх акупантаў на беларускай зямлі!” У дадатак гаркам партыі выпусьціў улёткі з патрабаваньнямі правесьці рэфэрэндум паводле пытаньня нямецкіх пахаваньняў. Ва ўлётцы гаворыцца: “Мы оставляем за собой право всеми конституционными методами противодействовать увековечиванию на нашей земле памяти гитлеровских палачей и их пособников”.

**Віктар Качан**, *kopets@mail.ru*

■ Бялынічы. Статыстыка сьведчыць аб значным росьце колькасьці крадзяжоў уласнасьці жыхароў райцэнтру. Гэта падштурхнула райвыканкам да прыняцьця рашэньня абсталяваць пад'езды жылых дамоў мэталёвымі дзьвярыма з кодавымі замкамі й дамафонамі. Паводле рашэньня, палову коштаў выкабу дзьвярэй і ўстаноўкі перагаворнага абсталяваньня возьме на сябе жылкамгас, астатнюю суму павінныя аплаціць жыхары. Сёлета мяркуецца ўстанавіць каля 300 мэталёвых дзьвярэй.

■ Мэдычная камісія вызначэньня ступені годнасьці бялыніцкіх прызыўнікоў да тэрміновай службы ў войску абсьледавала 147 юнакоў. Вартымі да службы ў арміі прызнаныя толькі 59 хлопцаў, 75 накіраваныя на дадатковае абсьледаваньне, а 15-ці – адмоўлена служыць у войску ў мірны час.

■ Вяскоўцам невыгодна працаваць на зямлі, трымаць хатнюю жывёлу. Сёлета ад зямельных участкаў толькі ў Лебядзянкаўскім сельсавеце адмовіліся 23 чал., а ўзялі толькі 7 вясковых сем'яў. На тэрыторыі, падпарадкаванай жыллёва-камунальнаму аддзелу райвыканкама, летась разьвіталіся са сваімі зямельнымі надзеламі 99 сем'яў. У Запольскім сельсавеце летась прыватны статак кароваў скараціўся на 51 адзінку, а за апошнія пяць гадоў – на 161. Красамоўна, што ад зямлі й жывёлы адмаўляюцца ня толькі зьнясіленыя пэнсіянэры.

**Базыль Ліцьвіновіч**
*karpechanka@tut.by*

■ У калгасе “Шлях камунізму” Круглянскага раёну падчас вадапою патанулі тры каровы. Буронкі праз слабасьць пасьля галоднай зімы не змаглі выйсьці на бераг, захрасшы ў твані. Аб прапажы дазналіся толькі цераз тры дні, калі супрацоўнік экалягічнай службы натыркнуўся на трупы жывёлаў. Праз п'янства мясцовых жыхароў і скарачэньне штату пасьвіць скаціну няма каму, і кіраўніцтва гаспадаркі змушанае зьвяртацца за дапамогаю да “хімікаў”.

■ Грошы, зароблены вясковымі жыхарамі Круглянскага раёну, мінуючы атрымальнікаў, пералічваюцца ў крамы Райпатрэбсаюзу й выдаюцца ўжо таварамі. Такім макарам раённае кіраўніцтва падтрымлівае дзяржаўны гандаль. Апошнім часам у крамы пачалі пералічваць і дапамогу на дзяцей, тым самым пазбаўляючы сем'і, дзе ёсьць дзеці, апошніх грошай.

**Зінаіда Мілюшчанка**
*asiptsov@krug.unibel.by*

■ Па выхадзе апошняга нумару асіповіцкай маладзёжнай газэты “Патрыятычная старонка”(“Патрон”), дзе быў зьмешчаны артыкул з крытыкай у адрас БПСМ, ейны рэдактар быў выкліканы да дырэктаркі. Яна параіла рэдактару перагледзець сваю пазыцыю ды быць асьцярожным у выказваньнях і падборцы тэмаў, а таксама выказала незадаволенасьць лагатыпам газэты з шасьціканцовым крыжам.

■ У Дараганава Асіповіцкага р-ну з насельніцтвам каля 550 чал. падчас аперацыі “Самагон”, выяўлена 18 кропак самагонаварэньня. Мясцовыя жыхары ўпэўненыя, што міліцыянты дзейнічалі па наводцы, бо заходзячы ў чарговую хату дакладна ведалі, дзе стаіць апарат і колькі прадукту выраблена. Некаторыя з пакрыўджаных самагоншчыкаў актыўна заняліся пошукамі вінавата й паабяцалі адпомсьціць “пільнаму” аднавяскоўцу.

**Рыгор Латышэвіч**
*karabel@ukr.net*

■ У Чавускім раёне адзначаны першы факт афіцыйнага прызнаньня містычных прафэсіяў. Жыхар вёскі Грабавічы зарэгістраваў від прадпрымальніцкай дзейнасьці, які ўключае астралёгію, сьпірытызм (зносіны з духамі), экстрасэнсорыку, гаданьне й біялякацыю.

***“Іскра”***

■ На 1-ае студзеня колькасьць насельніцтва Дрыбінскага р-ну склала 15.020 чал. За студзень-люты нарадзілася 22 чал., памерла 71. У раён прыехала 47 чал., 69 зьехала. У лютым 2003 г. рэальная заробкавая плата зьнізілася на 12,6% у параўнаньні зь мінулым годам. Пры гэтым кожны трэці працаўнік атрымаў яе не своечасова. У 1-ым квартале 2003 г. галоўныя сродкі насельніцтва трацiла на прадукты харчаваньня (75,3% ад тавараабароту, 30,2% зь якіх прыпадае на алкаголь).

**Сяргей Станкевіч**
*s_dribinsky@tut.by*

# Там, дзе мяне няма...

**18. Пра Аляксандру й Стэфана Бергманаў. Прыезд С. Новіка-Пяюна. Пра юбілейную выставу П. Сергіевіча, ягоную сьмерць і спробу стварыць мэмарыяльны музэй мастака. 90-годзьдзе М. Багдановіча. Зоську Верас прыймаюць у СП Беларусі. Радзеюць рады беларусаў-віленчукоў. Творчая дзейнасьць Л. Луцкевіча.**

Пра тое, каб некуды паехаць, не магло быць і гаворкі. У Радашковічы Лявон езьдзіў адзін, я заставалася з мамай. Апошнім разам я выяжджала ў Польшчу яшчэ ў 1975 г. Тады ў Вільню прыяжджала з Варшавы Аляксандра Бергман, якая зьбірала матар'ялы пра беларускіх дзеячоў міжваеннага часу. Яна кансультавалася зь Юркам і Лявонам Луцкевічамі, з мамай ды іншымі беларусамі. Я мела запрашэньне ў Шчэцін ад сваёй сяброўкі з ВБГ, і вось паехала разам зь Бергман, некалькі дзён жыла ў яе на Алее Уяздовске, пазнаёмілася з панам Стэфанам, мужам Аляксандры, былым чальцом КПЗБ, які, як і жонка, адседзей у савецкім лягеры. Пан Стэфан быў чалавекам жыцьцярадасным, рухавым, шмат чым цікавіўся. Тады ён толькі вярнуўся з Рыму й прывёз між іншым кніжку Салжаніцына „Ракавы корпус". На граніцы мытнік у яго запытаўся: „Panie, a zcy to nie zabronione?". На што пачуў адказ: „A ja to kupilem w komunistycznej ksikgarni w Rzymie". Мытнік толькі махнуў рукой. Кніжку я прачытала, яна была значна слабейшая, чым „Адзін дзень Івана Дзянісавіча" ці „Матронін двор".

Зноў абыйшла ўсе знаёмыя мейсцы: Стары Горад, Лазенка, Кракаўскае прадмесьце, Саскі сад. Пасьля паехала ў Шчэцін. Горад быў моцна зьнішчаны падчас вайны, але ацалеў замак, абарончыя насыпы. У Замку быў музэй. Варочалася зноў праз Варшаву... Гэта было маё апошняе замежнае падарожжа ажно да 1991 г.

У 1977 г. сьвяткавалі мой юбілей — 50 гадоў. У „Лясной хатцы" сабралася ўся нямецкая катэдра, быў і праф. Буцкус, прарэктар навуковай часткі, і сакратар бюро партыі пэдінстытуту. Час бавілі вельмі весела, шмат пяялі, чыталі мне павіншаваньні, было сказана шмат добрых, цёплых словаў. Лявон пасябраваўся з маімі супрацоўнікамі, ён вельмі лёгка заводзіў знаёмствы, знаходзіў зь людзьмі супольную мову, нягледзячы на іхную нацыянальнасьць.

І зноў ішлі дні, поўныя працы, рэдкіх сустрэчаў зь сябрамі. У 1978 г. прыехаў Сяргей Новік-Пяюн. Ён калісьці супрацоўнічаў з „Заранкай", пісаў пад псэўдонімам „Малады дзядок", прысылаў рысункі. Мама й ён мелі шмат пра што пагаварыць. Увечары, за сталом, Новік-Пяюн сьпяваў сваю песьню „Зорачкі". Лявон распавядаў што гэтую песьню сьпявалі ў лягерох, а ўкраінцы называлі яе сваёй. Тады ня ведалі, хто быў ейны аўтар. У Новіка-Пяюна была яшчэ адна цудоўная песьня-вальс „Вечар над Шчарай". Паэт чытаў і свае вершы, успамінаў пра сваё жыцьцё. Яму таксама давялося пакутаваць у савецкіх і нямецкіх лягерох. Пасьля ад'езду Новік-Пяюн часта пісаў доўгія лісты, на якія заўсёды ставіў сваю пячатку.

У 1980 г. адбылася юбілейная выстава Пётры Сергіевіча. Апошнімі гадамі у яго быў ужо моцны склероз, ён не пазнаваў сяброў. На адкрыцьці выставы мастак сказаў усяго некалькі словаў. На выставу прыехалі мастакі зь Менску, Купава, Кулік, Марачкін, мастацтвазнаўцы Шматаў і Раманюк. Літоўскі музэй мастацтва купіў з экспазыцыі Сергіевіча 20 работаў, у іх ліку быў партрэт Тоніка, напісаны ў 1957 г. Але мы зь Лявонам праз пані Станіславу, жонку Сергіевіча, адкупілі яго й падаравалі маме. Партрэт і цяпер вісіць у маёй кватэры. У нас сабралася некалькі працаў Сергіевіча: партрэт А. Луцкевіча, нацюрморт (флёксы), які мастак падараваў нам з нагоды вясельля, тры краявіды (два зь іх мы падаравалі сыну). Сергіевіч хварэў, апошні год не ўставаў з ложку. Лявон яго неаднойчы адведаваў. Памёр мастак у 1984 г., паховіны ладзіў Саюз мастакоў Літвы. Пасьля ягонай сьмерці рабіліся спробы стварыць у кватэры, дзе ён жыў каля 40 гадоў, мэмарыяльны музэй. Амбасада Беларусі ў Літве купіла нават частку кватэры, якая належала да ейнага гаспадара. Аднак на ўсе гутаркі пра музэй п. Станіслава адказвала: „А каму гэта патрэбнае?" Пасьля ейнай сьмерці сястра, якая жыве ў Польшчы, прадала кватэру, мэблю, шмат палотнаў Сергіевіча. На помніку на магіле Сергіевічаў надпіс на польскай мове. Таварыства беларускай культуры ў Літве дамагалася ўстанавіць на доме, дзе жыў Сергіевіч, мэмарыяльную таблічу з барэльефам мастака й подпісам на беларускай і літоўскай мовах. Аднак уласьнік дому, нейкі грузін, зрабіў капітальны рамонт, пры гэтым табліца была зьнятая й валялася сярод сьмецьця. Дзякуючы аташэ ў справах культуры амбасады Беларусі сп. Скараходаву табліцу зноў усталявалі на мейсца. Але цяпер яе зноў на тым мейсцы няма, і ніхто не цікавіцца лёсам таблічы.

У 1981 г. сьвяткавалі 90-годзьдзе Максіма Багдановіча. З гэтае нагоды прыяжджалі зь Беларускага тэлебачаньня М. Самуйлёнак і У. Содаль, а таксама група зь Белфільму. Яны здымалі маму, якая распавядала пра сваё знаёмства з М. Багдановічам, пра „Беларускую хатку" ў Менску, пра разьвітаньне з паэтам перад ягоным ад'ездам у Ялту. Зоська Верас была ўжо ці не адзіным чалавекам, які асабіста ведаў паэта, сустракаўся зь ім кожны дзень напрацягу 5 месяцаў. Распавядала яна свабодна, жыва, з шматлікімі дэталямі, каторыя захавала ейная ўчэпістая памяць, не зварочваючы ніякае ўвагі на мікрафоны й камэры.

Наступным 1982 годам Зоську Верас прынялі ў Саюз пісьменьнікаў. Прыехалі С. Панізьнік, К. Цьвірка, прывезьлі білет СП, адрас з подпісамі многіх пісьменьнікаў. На 90-годзьдзе старэйшай беларускай пісьменьніцы й дзяячкі сабраліся госьці: Тулейкі, Шышэі, Зоя Каўшанка, прыехала наша сяброўка Валя Войцік з сынам Антосікам, Д. Бічэль-Загнетава й Пяткевічы з Гародні. Янка Тулейка выткаў прыгожую стужку з адпаведным надпісам.

У 1983 г. і Лявон, і я выйшлі на пэнсію. Лявона афармілі электрыкам і ён выконваў сваю ранейшую работу, зусім кідаць працу ён не хацеў. Я, паводле тагачасных законаў, магла працаваць толькі 2 месяцы ў год. Я брала нейкі курс і гадзіны мне раскладалі на 1 сэмэстар. Большасьць часу праводзіла ў мамы, працавала на гародзе, улетку зьбірала ў лесе ягады й грыбы. Грыбы сушылі, марынавалі, салілілі. Слава пасьля заканчэньня навукі ўладкаваўся на „Веньце", завод працаваў на абаронку, там рабіліся чарцяжы да ракетаў. Разам зь ім працаваў Міхась Санько, беларус, ён неяк з бацькамі й братамі прыяжджаў у „Лясную хатку", гэта была моцная беларуская сям'я.

Тымчасам рады беларусаў-віленчукоў — тых, шчыра адданых беларускай справе, якія ня страчвалі надзеі на адраджэньне, і рабілі, што маглі — няўхільна радзелі. Памёр Янка Шутовіч, які так нічога й ня змог апублікаваць з напісанага ім. Ягоны нарыс пра Забэйду-Суміцкага памясьцілі ў самаробны альбом Забэйды, зроблены зь ініцыятывы Зоські Верас і Надзеі Шнаркевіч. Памёр Адольф Клімовіч, ягоныя архівы забраў КДБ. Памерлі Сергіевіч, Маслоўская, Лобан. Я няраз думала, як цяжка, мусі быць, маме, калі яна даведавалася, што паміраюць маладзейшыя за яе. Памёр у Празе Забэйда-Суміцкі. Вестку пра сьмерць знакамітага сьпевака прыслала Надзея Кастэцкая, якая зь ім сябравала й апекавалася ім апошнія гады ягонага жыцьця. Кастэцкая неяк прыяжджала да нас і высьветліла, што яна ў 1943-44 гг. працавала ў Мастацкай школе ў Баранавічах, дзе дырэктарам быў Лявон. Спн. Надзея пабралася шлюбам з чэскім скрыпачом Людамірам Кастэцкім, які граў у квартэце імя Сьмэтаны. Кастэцкая пісала лісты і маме, і нам, радзілася, што напісаць на помніку Забэйды. Пастанавілі напісаць: „Жыў песьняй і песьняй даваў людзям радасьць".

Пачалі зьяўляцца ў друку, у „Беларускім календары", што выдаваўся ў Беластоку, артыкулы Лявона. У сваіх артыкулах ён адкрыў для Беларусі праўду пра „дзядзьку Івана" й „Базылянскія муры". Артыкулы падпісваў псэўдонімам „Лявон Крывіцкі". Але тут прыйшла нечаканая бяда. Ва ўсіх газэтах БССР, а пасьля й Літ. ССР, зьявіўся артыкул-пасквіль Сташкевіча, у які той абліваў гразьзю Антона Луцкевіча й ягоных сыноў Юрку й Лявона. У наступстве гэтага пасквілю Лявона звольнілі з працы, а некаторыя віленскія сябры, баючыся за сваё становішча, парвалі з намі ўсялякія кантакты. Лявон цяжка перажываў як несправядлівыя абвінавачаньні, так і паводзіны сяброў. Ён заглыбіўся ў вывучэньне матар'ялаў пра беларускую Вільню, марыў пра выданьне кніжкі, хаця абставіны былі неспрыяльныя.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**



*З паэтам Сяргеем Новікам-Пяюном. 1978 г.*

**Умовы падпіскі:**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$ 25**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак: *Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* ***10 000 196 490.***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **261 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас у Пінску: *Сяргей Гут, 225710 Пінск-1, а/с 27.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 5**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 8**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 10**.

Адрасы для допісаў:
⊠ **«Рунь»**, 2001 Vilnius, a/d 1021
⊠ **Ігар Перышч**, Брэсцкая 116-9, 225710 Пінск.
**e-mail: editor@runbel.lt**

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | | |
|---|---|---|
| С. Будкевіч з Англіі | GBP | 50 |
| Я. Каханоўская з Амэрыкі | CZK | 1000 |
| К. Вініцкая з Амэрыкі | USD | 40 |
| М. Латушкін з Амэрыкі | USD | 50 |
| І. Ільчук з Амэрыкі | USD | 60 |
| Т. і М. Белямукі з Амэрыкі | USD | 30 |
| К. Верабей з Амэрыкі | USD | 20 |
| У. Русак з Аўстраліі | AUD | 50 |
| У. Набагез з Амэрыкі | USD | 100 |
| Ю. Нераток зь Беларусі | USD | 5 |
| М. Сёдэрберг з Швэцыі | USD | 20 |

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
Выдаецца з 1997 году
Выходзіць адзін раз у месяц
Выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі:
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius
тэлефон: (+ 370) 652 07933
факс: (+ 370 5) 242 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
Друкарня **UAB «Infosiûlas»**, Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад **1000**